КУЛЬТУРА › ГРАМАДСТВА › ЭКАНОМІКА ›
ЛЮДЗІ › ПАДЗЕІ › ФАКТЫ

‹ № 17 (338) ‹ 3 мая ‹ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ У ПРАДЧУВАННІ ВАЙНЫ**

Стар. 14

**КАГО БЕРАЖЭ МІЛІЦЫЯ…**

Сітуацыя вымушае канстатаваць, што неадэкватна жорсткія дзеянні міліцыі — гэта не выключэнне з правілаў і не нейкая рэгіянальная асаблівасць. Міліцыя збівае грамадзян па ўсёй краіне

Стар. 5

**ГАЛІЦЫЯ АДНАЎЛЯЕ СЕПАРАТЫЗМ**

Пра тое, ці збіраюцца галічане стварыць асобную дзяржаву, журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае кіеўскі палітолаг Юрый Паповіч

Стар. 11

**ЛЮДАМІР СЛЯНДЗІНСКІ. ТРАЙНЫ ПАРТРЭТ**

Стар. 15

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**БРАТЫ ДЫБОЎСКІЯ — НАВУКОЎЦЫ І ПАЎСТАНЦЫ**

Нарыс Лявона Целеша

З НАГОДЫ

# НЕЗАЛЕЖНАЯ ПРЭСА ЖЫВЕ…

Сяргей ПУЛЬША

**«Душаць, душаць, — не раздушаць, забіваюць — не заб'юць» — прыкладна такімі радкамі можна ахарактарызаваць свабоду слова ў Беларусі. Трэцяга мая прэса планеты Зямля адзначае сваё прафесійнае свята — Сусветны дзень свабоды друку.**




Гэты дзень зацверджаны ААН як штогадовы напамін міжнароднай супольнасці пра тое, што свабода друку і свабода выказвання меркаванняў з'яўляюцца асноўнымі правамі, замацаванымі ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

Але што да Беларусі, то можна сказаць: наша краіна — не «міжнародная супольнасць». У нас свой Дзень друку — 5 мая, у дзень выхаду газеты «Праўда», праз якую дзядуля Ленін сцвярджаў, што «газета — гэта не толькі калектыўны прапагандыст і агітатар, але і калектыўны арганізатар». Заўважым, што пра «інфармаванне калектыву» тут няма ані слова: выключна прапаганда і агітацыя.

Спачатку некаторыя несуцяшальныя для недзяржаўных журналістаў лічбы. Згодна з сакавіцкім апытаннем Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Літва), незалежнай прэсе давяраюць 28,8% апытаных. Падаецца, лічба неблагая — каля траціны насельніцтва. Але гэты ўзровень знізіўся з 48,1% у снежні 2012 года. Не давяраюць незалежным СМІ 50,2%.

Здавалася б, дзяржава павінна пляскаць у ладкі і ўвогуле забыцца на недзяржаўную прэсу пры такой дынаміцы. Але падзеі з пачатку гэтага года сведчаць, што 2013-ты будзе чарговым выпрабавальным годам для беларускай незалежнай журналістыкі: ціск улады на недзяржаўныя СМІ значна ўзмацніўся.

З пачатку года фактычна зачынены культурніцкі часопіс «ARCHE-пачатак». У трэці раз адмовілі ў адкрыцці карпункта тэлеканала «Белсат». Толькі на апошнім «Чарнобыльскім шляху» былі затрыманыя чатыры журналісты, і яшчэ двое ў гэты ж дзень — у Астраўцы. Двое з затрыманых у Мінску — Генадзь Барбарыч і Аляксандр Ярашэвіч з «Радыё Рацыя» — атрымалі па трое сутак арышту. За гэты месяц «невядомыя хакеры ў цывільным» паспрабавалі «паклasці» чатыры незалежныя сайты. Улада па-ранейшаму не дапускае недзяржаўныя выданні ў манапалізаваную сетку распаўсюду.

Можа быць, таму што «незалежныя» — не прапагандысты і не агітатары. Яны ж проста акыны — што бачаць, тое і пяюць. І не іх віна ў тым, што бачаць яны іншую Беларусь — вельмі адрозную ад той, што паказваюць па тэлебачанні. Бо адна справа — гэта адлюстраваць візіт прэзідэнта на ферму, калі там усё вычышчаюць і мыюць, а іншая — штодзённую працу даяркі. А жыццё ж складаецца не з візітаў прэзідэнта, а з той самай штодзённай працы! І ўмовы гэтай працы павінны быць забяспечаны незалежна ад таго, ці ёсць побач прэзідэнт, ці яго няма.

Абсалютна абсурднае рашэнне па альбоме «Прэс-фота Беларусі–2011», калі суд і КДБ прызналі фотаздымкі «экстрэмісцкімі матэрыяламі», паказвае, наколькі небяспечны для ўлады «незамылены» погляд на беларускае грамадства.

> Паводле сацыялагічных апытанняў, рэйтынг даверу да дзяржаўных СМІ яшчэ горшы, чым у недзяржаўных, — 28,1%, а не давяраюць дзяржаўнай прапагандзе — 53,6%

Ён страшэнна небяспечны, такі погляд. Па-першае, улада памятае, чым скончылася «галоснасць» у СССР, а падругое, «прапагандысты і арганізатары», нягледзячы на шматмільённыя датацыі, не выконваюць сваёй прапагандысцкай функцыі. Паводле таго ж даследавання НІСЭПД, рэйтынг даверу да дзяржаўных СМІ яшчэ горшы, чым у недзяржаўных, — 28,1%, а не давяраюць «прапагандзе» 53,6%.

Пра прэсу існуе маса больш прыемных ідыём. Маўляў, гэта і «чацвёртая ўлада», і «старажавы сабака дэмакратыі». Лухта гэта ўсё, асабліва наконт сабакі. Адзінае, на што здольная прэса, — гэта давесці факты да грамадства. А грамадства ўжо само вырашае, як на гэтыя факты рэагаваць, і ці рэагаваць увогуле. Прэса — гэта проста люстэрка дзяржавы і грамадскасці. І што ўжо скардзіцца на люстэрка, калі морда такая…

Адзінае, што не можа зразумець любая таталітарная дзяржава: барацьба ў сучасных умовах са свабодай прэсы — справа марная. Калі нават у СССР існаваў самвыдат, то што казаць пра сённяшні дзень з поўным доступам да аргтэхнікі? Калі нават у Кітаі з іх «вялікім фаерволам» на інтэрнэт знаходзяцца дысідэнты?

Уладзе варта зразумець толькі адно: незалежная прэса зусім не з'яўляецца яе ворагам, а наадварот — памагатым. У самым прымітыўным варыянце: адкуль бы ўлада даведалася пра карупцыю, калі б не свабода слова?

Так што недзяржаўная прэса жыве і плануе жыць надалей. А ўжо што думае на гэты конт сама дзяржава — справа другасная.

СВЯТА



# ПЕРШАМАЙ ПАД ЧАРКУ І ШКВАРКУ

Генадзь КЕСНЕР

**«Чарка ды шкварка!» — менавіта гэты лозунг для беларускіх працоўных лічыць галоўным улада. Асабліва ў дні дзяржаўных святаў.**

1 мая — Дзень працы, як яго абвясціла ў 1998 годзе ўлада Беларусі. І вось афіцыйная Федэрацыя прафсаюзаў шчыруе, як толькі можа. У сталіцы — разгуляева з кірмашамі, танцулькамі і таннай гарэлкай на разлiў. Гуляй, душа працоўная! Не думай пра праблемы.

Улады Беларусі наўмысна замыльваюць сэнс самога існавання такой даты, як 1 мая. Яшчэ нават за Саветамі гэты дзень зваўся Днём міжнароднай салідарнасці працоўных. Самае цікавае, што пра гэта памятаюць жыхары многіх краінаў Еўрапейскага саюза. І ў гэты дзень адстойваюць свае правы. Менавіта 1 мая 2013 года ў некаторых еўрапейскіх дзяржавах прайшлі дэманстрацыі працоўных супраць пагаршэння ўзроўню жыцця ў выніку крызісу. У некаторых еўрапейскіх краінах сёння адбываюцца агульнанацыянальныя страйкі. Людзі ведаюць свае правы і карыстаюцца імі, каб нагадаць уладам пра сваё існаванне. І ўлады, з большасці, да іх прыслухоўваюцца.

У Беларусі ўлады робяць выгляд, што ўсё добра. Галоўны чыноўнік ва ўсіх сэнсах месіць чыноўнікаў-карупцыянераў, паказвае дуліны галоўнаму саюзніку, адмаўляючыся аддаваць фамільнае срэбра нахабнаму старэйшаму брату, а ў гэты час народ гуляе. А вось насамрэч неабыякавым сугрмадзянам улады адмовілі ў правядзенні адпаведных даце мерапрыемстваў. Незалежныя прафсаюзы, левыя партыі ды арганізацыі не атрымалі прынамсі ў Мінску ніводнага дазволу на правядзенне акцыяў, на якіх маглі б абмеркаваць сапраўдны стан працоўнага люду, праблемы грамадства, эканомікі, сацыяльнае становішча.

Яшчэ не хапала! Лепш танная чарка ад улады, чым нягодныя роздумы ад апазіцыі!

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# ШЛЯХ СКОНЧЫЎСЯ — ПРАБЛЕМЫ ЗАСТАЛІСЯ

**Па заканчэнні ўсіх судовых працэсаў над удзельнікамі і журналістамі арганізатары акцыі падвялі яе вынікі.**

Як адзначыў на прэс-канферэнцыі сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі БХД Віталь Рымашэўскі, выніковую прэс-канферэнцыю можна было і не праводзіць, каб не брутальныя дзеянні міліцыі да «Чарнобыльскага шляху», падчас яго правядзення і пасля.

Па падліках арганізатараў, напярэдадні «Чарнобыльскага шляху» і пасля яго было затрымана каля 20 чалавек. Некаторых, як эколагаў Ірыну Сухій, Вольгу Канавалаву, Васіля Сінюхіна і Канстанціна Кірыленку, затрымалі прэвентыўна, сказаўшы, што яны падобны да кватэрных рабаўнікоў. Яны правялі ў РУУС увесь «Чарнобыльскі шлях», пасля чаго былі адпушчаныя. Тых, хто быў затрыманы пасля «Шляху», прыгаварылі да адміністрацыйнага арышту.

Увогуле, улады ўсяляк парушалі ўласныя абяцанні і дамоўленасці. «Ірына Сухій адказвала за дастаўку на «Шлях» друкаванай прадукцыі, дазволенай для распаўсюду, і іншых агітацыйных матэрыялаў. Мы дамаўляліся, што зможам несці расцяжкі і банеры, прысвечаныя мерапрыемству. Аднак міліцыя нават не дазволіла дастаць іх з багажніку машыны. Мы дамаўляліся, што нам дазволеная гукаўзмацняльная апаратура. Аднак аўтобус з гэтай апаратурай затрымалі», — адзначыў Рымашэўскі і нагадаў, што нават мегафоны спрабавалі забараніць для праносу на мітынг.

Што ж тычыцца самога «Чарнобыльскага шляху», то ён як акцыя скончыўся, а як ідэя — не. Супрацоўніцтва палітычных партый і эколагаў працягнецца ў межах створанага перад «Шляхам» Нацыянальнага экалагічнага камітэта імя Нікітчанкі. І, паколькі ўжо ўлады брутальна рэагуюць на размовы пра постчарнобыльскія праблемы і будаўніцтва АЭС, то Нацэкакам і зоймецца менавіта гэтым, паведаміла эколаг Таццяна Новікава.

Па-першае, эколагі сумесна з палітычнымі актывістамі больш дэталёва азнаёмяцца з сітуацыяй на постчарнобыльскіх тэрыторыях. Улетку плануюцца некалькі экспедыцый у Чарнобыльскую зону, а таксама буйная канферэнцыя па чарнобыльскіх праблемах з удзелам спецыялістаў. Па-другое, падчас «Чарнобыльскага шляху» сабралі каля 300 подпісаў грамадзян супраць будаўніцтва АЭС у Астраўцы, і гэты збор подпісаў працягнецца. Па-трэцяе, эколагі плануюць дэталёва высветліць, што ж адбываецца з беларускай АЭС. У прыватнасці, чаму яна пачала будавацца без дакументаў, на якой стадыі будоўля зараз, і што плануе бліжэйшым часам паставіць сюды Расія з абсталявання.

Карацей, працы будзе шмат. «Шлях» скончыўся, а праблемы засталіся…

1 МАЯ



# ПАД НАЦЫЯНАЛЬНЫМІ СЦЯГАМІ

**У Брэсце адбылася святочная першамайская дэманстрацыя пад бел-чырвона-белымі сцягамі.**

Удзельнікі акцыі прайшлі па гораду да аблвыканкама, дзе арганізатары акцыі раздалі інтэрв'ю.

З прамовай выступіў кіраўнік мясцовай філіі БСДП(Г) Ігар Маслоўскі.

Паводле падлікаў арганізатараў дэманстрацыі, у ёй прынялі ўдзел каля 200 чалавек. Людзі прыходзілі сем'ямі разам з дзецьмі. Акрамя нацыянальных сцягоў, луналі партыйныя сацыял-дэмакратычныя, а таксама сцягі камуністычныя і БССР.

Пра затрыманні нічога не паведамляецца. Міліцыя і людзі ў цывільным з камерамі суправаджалі і здымалі дэманстрантаў на працягу шэсця.

У адрозненні ад Мінска, брэсцкія ўлады акцыю санкцыянавалі.

Паводле «Радыё Свабода»



ПАМЯЦЬ

# «БУЛЬБАШ-ХОЛ» УСЁ Ж БУДУЮЦЬ!

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Насуперак прадпісанню Мінкультуры — прыпыніць будаўнічыя працы — комплекс «Бульбаш-хол» актыўна ўпарадкоўваюць: выкладваюць плітку, ставяць дзіцячыя арэлі. Тыя чатыры дамкі, якія было прадпісана знесці, па-ранейшаму стаяць.**

Відавочна, што забудоўцы не збіраюцца сыходзіць з гэтай тэрыторыі. Тэрыторыя ўрочышча Курапаты, у тым ліку і пахаванні, завалена будаўнічым смеццем.

Увечары 29 красавіка ў Курапатах адбылася традыцыйная штомесячная акцыя ўшанавання памяці ахвяр камуністычных рэпрэсій. Перад акцыяй удзельнікі мерапрыемства абышлі тэрыторыю ўрочышча, каб ацаніць яе стан, паглядзець, ці спыніліся будаўнічыя працы забаўляльнага комплексу «Бульбаш-хол», што месціцца на ўскрайку ўрочышча. І вось што яны ўбачылі.

Тэрыторыя Курапатаў надзвычай засмечана. І раней жыхары прылеглых дамоў засмечвалі ўрочышча, але цяпер на тэрыторыі, якая прылягае да «Бульбаш-хола», раскіданае яшчэ і будаўнічае смецце. Паддоны з-пад пліткі, бутэлькі, будаўнічы друз, пакункі са смеццем, парэшткі мэблі, нават цела мёртвага сабакі ў пакунку — вось што ўчора пабачылі ўдзельнікі акцыі на тэрыторыі ўрочышча, якое мае афіцыйны статус гісторыка-культурнай каштоўнасці першай (найвышэйшай) катэгорыі.

Нагадаем, супрацьстаянне грамадскіх актывістаў з «Бульбаш-холам» цягнецца ўжо болей як паўгода. Цяпер забудоўца мусіць прадставіць у Міністэрства культуры распрацаваны праект ахоўнай зоны, пасля Мінгарвыканкам павінен зацвердзіць горадабудаўнічы праект, які вынесуць на грамадскія слуханні. Паводле апошняй інфармацыі, праект у Мінкульт яшчэ не паступаў.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ДАРАГАЯ ХАРЧОВАЯ БЯСПЕКА

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларускі кіраўнік, здаецца, працуе на апярэджванне. Не паспелі мы пачаць пасяўную, яшчэ не закопана на лецішчы першая бульбачка ў зямлю, а Аляксандр Рыгоравіч ужо адрапартаваў нам пра вялізарныя поспехі беларускай сельскай гаспадаркі. І мы — самая сельскагаспадарчая краіна ў Еўропе!**



Photo.ByMedia.Net

Як адзначыў кіраўнік Беларусі на сустрэчы з выкладчыкамі і студэнтамі Беларускага аграрна-тэхнічнага ўніверсітэта, у цяперашні час Беларусь цалкам задавальняе свае патрэбы ў харчаванні і каля паловы пастаўляе на экспарт. Па выніках 2012 года аб'ём экспарту прадуктаў склаў больш за 5 мільярдаў долараў, а да канца 2015 года павінен быць 7 мільярдаў. «Можна ганарыцца тым, што ў разліку на душу насельніцтва асноўных відаў сельскагаспадарчай прадукцыі Беларусь займае першае месца сярод краін СНД. Па вытворчасці мяса мы зраўняліся з Германіяй, а па малаку прыкладна ўдвая перавышаем асноўныя развітыя ў аграрным дачыненні еўрапейскія краіны», — заўважыў Лукашэнка.

Здавалася б, можна ганарыцца такімі дасягненнямі. І мы, безумоўна, імі ганарыліся б, калі б словы Лукашэнкі былі «рэальнасцю, дадзенай нам у адчуваннях». Але карысці ад такіх сельскагаспадарчых дасягненняў — нуль.

Навошта нам «разлік на душу насельніцтва», калі нашы грамадзяне ў чэргах стаяць па літоўскія і польскія візы, каб у суседзяў закупіць тое ж мяса, якое ў іх у два-тры разы танней? Чаму пры рэкордным мінулагоднім ураджаі яблыкаў зараз у крамах — польскія і галандскія яблыкі (прычым у 2–3 разы даражэй, чым на іх радзіме), але не беларускія? Дзе на прылаўках беларуская бульба, і што там робяць іспанскія памідоры — у нас жа харчовая бяспека?

Ну і што з таго, што па ўзроўні вытворчасці мяса мы зраўняліся з Германіяй? Германія магла б у дзесяць разоў больш мяса выраблядь. Але там не гоняцца за аб'ёмамі, там глядзяць на тое, ці здолеюць яны гэтае мяса прадаць. Мы ўдвая перавышаем краіны Еўропы па малаку толькі таму, што ў Еўропе яшчэ не забыліся на «фермерскія бунты», калі малака там было столькі, што фермеры не маглі яго прадаць, і ліліся малочныя рэкі на плошчы еўрапейскіх сталіцаў і ў каналізацыю…

Літр малака ў Германіі каштуе каля 50 еўрацэнтаў — 5 тысяч рублёў на нашы грошы. У нас — каля 7 500. Кілаграм свініны ў Францыі на нашы грошы — 29 тысяч. Чаму наша «харчовая бяспека» не дае такіх цэнаў? На гэта, на жаль, адказу ад кіраўніка Беларусі чуваць не было.

І так ва ўсім. Толькі нядаўна Лукашэнка разагнаў Мінэнерга, заявіўшы, што там усё ў карупцыі, а расплачваюцца за гэта людзі. І плацяць вельмі шмат. Два тыдні не прайшло з таго моманту, як быў прызначаны новы кіраўнік Мінэнерга. І што? Знізіўся кошт на паліва?

Наадварот! На тыдні ў Беларусі на 1,3% павышаны адпускныя цэны на газы вуглевадародныя звадкаваныя паліўныя для камунальна-бытавога спажывання. Гэта ўжо трэцяе падвышэнне коштаў у бягучым годзе: у лютым яны былі павялічаны на 2,6%, у сакавіку — на 1,3%.

Гэтым жа дакументам прызнаны страціўшымі сілу пастановы, якія ўсталёўвалі цэны на газ для запраўкі аўтамабільнага транспарту. Зараз адменена дзяржрэгуляванне цэн на газ для аўто — то бок, кошт будзе свабодна расці.

Але гэта хоць неяк кампенсаваць здолелі. 29 красавіка Савет Міністраў зацвердзіў новы бюджэт пражытачнага мінімуму, які будзе дзейнічаць з 1 мая па 31 ліпеня гэтага года. Бюджэт пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва з мая складзе 974 110 рублёў, што на 5,4% больш, у параўнанні з ранейшымі нарматывамі.

Для працаздольнага насельніцтва БПМ з мая ўстаноўлены ў памеры 1 074 680 рублёў, для пенсіянераў — 803 370 рублёў, для дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў — 846 110 рублёў, для дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў — 1 079 730 рублёў, для дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў — 1 093 130 рублёў, для дзяцей-студэнтаў — 975 200 рублёў.

Хаця маглі б і не «парыцца» з такой кампенсацыяй. Усё роўна пацвярджаецца думка пра тое, што колькі ў беларуса грошай не забірай, яны ў яго ўсё роўна ёсць. Насельніцтва Беларусі па стане на 29 красавіка 2013 выкупіла 94% аб'ёму эмісіі трэцяга выпуску дзяржаўных валютных аблігацый, паведамляецца ў прэс-рэлізе Беларусбанка. Размяшчэнне двухгадовага выпуску валютных аблігацый на суму 50 мільёнаў долараў ажыццяўляецца з 30 студзеня 2013 года. Прыбытковасць валютных аблігацый для насельніцтва складае 7% гадавых.

Такім чынам, беларусы ўклалі ў дзяржаву каля 45 мільёнаў долараў. Актыўны ўдзел насельніцтва ў папаўненні ЗВР Нацбанка (валюта ад продажу аблігацый ідзе ў рэзервы) тлумачыцца добрымі ўмовамі: высокай працэнтнай стаўкай і пагашэннем папер яшчэ да пераабрання Лукашэнкі на 5-ы тэрмін. Апошні фактар немалаважны, паколькі менавіта павышэнне заробкаў перад чацвёртым тэрмінам Лукашэнкі, на думку многіх эканамістаў, прывяло да абвалу рубля ў 2011 годзе.

І не ўсе грошы марнуюцца, што радуе. Дзяржава ўсё ж клапоціцца пра грамадзян. Асабліва пра тых, якія пакідаюць межы Беларусі, часова або назаўсёды. Новы аўтобусны экспрэс-маршрут № 300Э ад сталічнага аўтавакзала Цэнтральны да Нацыянальнага аэрапорта Мінск уведзены з 1 мая.

Гэта хуткасны маршрут з адным прыпынкам каля станцыі метро «Уручча», за кошт чаго час у шляху да аэрапорта скароціцца. З цэнтра горада да пункта прызначэння пасажыры змогуць дабрацца за 60 хвілін у дзённы час і за 55 хвілін — уначы.

Новы маршрут заменіць прыгарадныя аўтобусныя рэйсы № 300С, 300СУ.

Адлегласць ад Нацыянальнага аэрапорта Мінск да станцыі метро «Уручча» складае 33 кіламетры, да цэнтра Мінска — 42 кіламетры. Зараз на гэтым напрамку па раскладзе курсіруюць чатыры рэйсавыя аўтобусы.

Гэта вельмі прыемна для тых, хто плануе ўлетку, падчас адпачынку вылецець куды-небудзь у крызісную Еўропу, паесці таннага мяса і папіць не менш таннага малака. Галоўнае, каб самалёты былі. А грошы на адпачынак і на ежу, гледзячы па тым, як мы спансуем дзяржаву, будуць.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### АЛЯКСАНДР СУРЫКАЎ

Пасол Расіі ў Беларусі замахнуўся на самае святое — на беларускі эканамічны цуд. У інтэрв'ю інфармацыйнаму агенцтву БелаПАН ён заўважыў, што беларуская мадэрнізацыя — гэта лухта.

«Мадэрнізацыя без тэхналагічнага перааснашчэння не магчымая. Але мадэрнізацыя без раскрыцця ініцыятывы таксама не магчымая. Пры ручным кіраванні, жорсткім адміністрацыйным рэгуляванні і планаванні мадэрнізацыя таксама складана рэалізуемая, якія грошы не ўкідвай. Без ініцыятывы бізнэсу нічога не будзе, калі ён бегае толькі пад пугай начальніка. Для мадэрнізацыі трэба шукаць новыя тэхналогіі, а гэта грошы. Але рэсурсы шукаць неабходна не толькі на знешнім рынку — іх і ў Расіі не хапае», — сказаў Сурыкаў.

«Галоўнае для мадэрнізацыі — інвестар. Калі ён уваходзіць у актыў, купляе яго, то ён кроўна зацікаўлены павышаць яго эфектыўнасць. Без інвестыцый мадэрнізацыя не магчымая. Адзін са шляхоў прыцягнення інвестыцый — продаж актываў, у дзяржаўную ўласнасць інвестары нічога ўкладваць не будуць. Такім чынам, прыватызацыя для мадэрнізацыі беларускай эканомікі пажаданая», — падкрэсліў пасол.

То бок, ён наўпрост абумовіў беларускую мадэрнізацыю не толькі прыватызацыяй прадпрыемстваў, але і зменай сістэмы эканомікі. А на гэта мы пайсці не можам!

### МІКАЛАЙ ЛАДУЦЬКА



Мэр Мінска цярпліва дзве гадзіны выслухоўваў грамадзян. 30 красавіка адбылася прамая тэлефонная лінія старшыні Мінгарвыканкама Мікалая Ладуцькі. За дзве гадзіны было прынята 53 тэлефанаванні. Два дзясяткі пытанняў Мікалай Ладуцька выслухаў асабіста. На астатнія адказалі кіраўнікі падраздзяленняў гарвыканкама, якія прысутнічалі на прамой лініі.

Часцей за ўсё гараджан хвалявала тэма жыллёвай палітыкі і будаўніцтва жылля, у тым ліку невыкананне тэрмінаў узвядзення жылых дамоў. Некалькі пытанняў прагучала па добраўпарадкаванні гарадскіх тэрыторый. У прыватнасці, размова ішла пра ўборку асобных вуліц, рамонт набярэжнай у раёне вуліцы Камуністычнай, няякасную афарбоўку будынкаў. Таксама былі званкі, якія тычацца льготнага крэдытавання, працаўладкавання, месца ў інтэрнаце, капітальнага рамонту і іншыя.

Аднак, здаецца, мэра Мінска такая плынь інфармацыі збянтэжыла. Як паведамляюць афіцыйныя СМІ, адзіным вынікам гэтай лініі стала тое, што «ўсе звароты будуць уважліва вывучаны і на кожны дадзены кампетэнтны адказ у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам».

### АНДРЭЙ СКАБЕЛКА



Настаўнік беларускай зборнай па хакеі Андрэй Скабелка заявіў, што зборная гатовая да чэмпіянату свету па хакеі–2013 у Швецыі.

На заўвагу журналіста пра крытычнае стаўленне да зборнай Андрэя Мезіна, які заявіў: «у гэтым годзе хакеісты едуць у зборную без асаблівай радасці», Скабелка адказаў: «Хіба хакеісты поўзалі па лёдзе і плакалі?.. Хакеісты разумеюць, што чэмпіянат свету — шанец для іх праявіць сябе, зарэкамендаваць. Думаю, хлопцы прыехалі з вялікай радасцю, з добрым настроем. Пад шайбу клаліся Мялешка, Дзямкоў, іншыя. Значыць, ім важна, заляцць яна ў вароты ці не. Калі мы назіраем гэта на неафіцыйных матчах, то што казаць пра маючы адбыцца форум?»

Тым не менш, ён прызнаўся, што ў камандзе няма яўных лідараў. «Але гэта не заўсёды дрэнна. Унутры каманды ёсць разуменне таго, за кошт чаго мы можам перамагаць. А спалучэнні ў нас роўныя па сіле. Гульні паказалі, што лідарскія функцыі здольныя браць на сябе абсалютна ўсе», — лічыць Скабелка.

Ну што ж, чэмпіянат пакажа, хто і як умее «класціся пад шайбу».

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЛОГІКА ЎТРЫМАННЯ ЎЛАДЫ

Сяргей НІКАЛЮК

**Настроенасць палітычнай эліты на рэформы прама прапарцыйная ўзроўню страхаў, што генеруюць прадчуванні магчымай страты ўлады.**




Неяк мураш пацікавіўся ў станожкі, як яна адначасова можа каардынаваць рух сарака ног. Станожка задумалася і… не змагла крануцца з месца.

Апынуцца на месцы станожкі дастаткова проста. У Беларусі пражывае каля 9,5 мільёна чалавек, з якіх 4,5 мільёна занятыя ў эканоміцы. Але як яны могуць не проста штосьці вырабляць, а яшчэ і выконваць пры гэтым паказчыкі сацыяльна-эканамічнага развіцця, прынятыя на IV Усебеларускім народным сходзе?!

Здавалася б, адказ відавочны. Каардынацыю высілкаў мільёнаў беларускіх працаўнікоў ажыццяўляе ўладная «вертыкаль» на чале з адзіным палітыкам (АП). Аналагічная «вертыкаль» існавала і ў СССР. У 1985 годзе Сімон Кардонскі вырашыў пабудаваць схему ўладкавання дзяржаўнай улады — ад генеральнага сакратара ЦК КПСС да сакратара партарганізацыі саўгаса і ад старшыні Савета міністраў да старшыні пасялковага савета. Пры самым дробным шрыфце, які толькі можна прачытаць, у яго атрымалася табліца, даўжынёй у 1,7 метра, якая ўтрымлівала больш за 70 узроўняў іерархіі.

Нягледзячы на тое, што кожная з пасад прысутнічала ў рэальнасці, самі ўдзельнікі «вертыкалі», якім Кардонскі дэманстраваў сваю схему, адмаўляліся ў яе верыць. Аднак схема працавала, і працавала па прынцыпе станожкі, калі ніводны з яе ўдзельнікаў не быў здольны адрэфлексаваць працэс каардынацыі ў цэлым.

## Выдатны букет асабістых якасцяў

Пасля распаду СССР, які азначаў і распад «схемы Кардонскага», ва ўсіх былых савецкіх рэспубліках пачаліся рэформы. Наколькі шматлікія каманды рэфарматараў разумелі, што яны рэфармуюць, і якім ім уяўляўся канчатковы вынік сацыяльных, палітычных і эканамічных пераўтварэнняў — гэта асобнае пытанне. Але за эканамічным спадам практычна паўсюдна пачаўся рост. Беларусь у гэтым сэнсе не стала выключэннем.

Я не думаю, што АП у 1994 годзе разбіраўся ў эканоміцы лепш за Гайдара, а ў асаблівасцях правядзення выбарчых кампаній — лепш за Глеба Паўлоўскага. Дыпломы гісторыка і эканаміста, атрыманыя ў Магілёўскім універсітэце (1975) і Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (1985), адпаведных ведаў не прадугледжвалі. Аднак ва ўмовах рэальнай палітычнай канкурэнцыі АП не толькі здолеў *«поднять власть из грязи»*, аднак і *«запустить заводы»*.

Тут самы час паразмаўляць пра ролю асобы ў гісторыі. Выбітны чалавек, паводле стандартнага курсу марксізму, выбітны не тым, што ён можа спыніць ці змяніць ход гісторыі. Яго веліч палягае ў тым, што сваёй дзейнасцю ён спрыяе прагрэсіўнаму развіццю грамадства. «Выбітны чалавек, — пісаў бацька рускага варыянту марксізму Георгій Пляханаў у працы "Да пытання пра ролю асобы ў гісторыі", — з'яўляецца менавіта пачынальнікам, таму што ён бачыць далей за іншых і прагне мацней за іншых».

Уяўленне Пляханава пра здольнасць выбітнага чалавека «бачыць далей за іншых» выдатна перадае фрагмент патрыятычнага верша з майго дзяцінства:

*«Далась победа нелегко,*
*Но Ленин вел народ,*
*И Ленин видел далеко,*
*На много лет вперед».*

У якасці ілюстрацыі здольнасці Леніна *«видеть далеко»*, прывяду яго выказванне, зробленае за тры тыдні да Лютаўскай рэвалюцыі: «Мы, старыя, канешне, не дажывем да рэвалюцыі, але вы, маладыя, абавязкова».

**Настрой жа палітычнай эліты на рэформы прама прапарцыйны ўзроўню страхаў, якія генеруюцца прадчуваннямі страты ўлады. Але да крытычнага ўзроўню яшчэ далёка**

Гісторыю, як вядома, пішуць пераможцы. Біяграфія правадыра, які ўзначаліў пераможную рэвалюцыю, — неад'емная частка такой гісторыі. Абмяжуюся невялікім фрагментам з афіцыйнай біяграфіі АП: «А.Г. Лукашэнку ўласцівыя глыбіня разумення падзей, працавітасць, адказнасць, рэалізм, справядлівасць і прынцыповасць».

Пагадзіцеся, выдатны букет асабістых якасцяў. Але якім чынам электаральныя прыхільнікі АП маглі іх ацаніць ва ўмовах хаосу 1994 года? Аднак недарма беларусы схільныя галасаваць не розумам, а сэрцам. Таму феномен харызматычнага правадыра «ўзнікае або ад фанатычнай і цвёрдай веры, або яго спараджае само ўменне «аптымальна» ў кожным канкрэтным выпадку распарадзіцца вышэйшай уладай» (Уладзімір Булдакоў, гісторык).

## Геніяльны, таму што сярэдні

Схільнасць галасаваць сэрцам не варта разглядаць у якасці нацыянальнай асаблівасці беларускіх выбарцаў. У лютым на парламенцкіх выбарах у Італіі за «Рух пяці зорак» каміка Бепе Грыла прагаласаваў кожны чацвёрты. У той час, як блок былога прэм'ер-міністра Марыё Монці, які праводзіў палітыку лібералізацыі эканомікі і адраджэння здаровай канкурэнцыі, атрымаў толькі 10,5% галасоў.

«Веды — сіла», — сцвярджаў філосаф Фрэнсіс Бэкан. Аднак у палітыцы фактар ведаў далёка не заўсёды адыгрывае першасную ролю. «Ніякі Напалеон, — сцвярджае Вячаслаў Ігруноў, — не вывучаў сваю нацыю, этнас. Ён яго браў ды ляпіў. І надзвычай паспяхова. Ён быў вельмі сярэдні чалавек, і часта такія сярэднія людзі становяцца геніяльнымі, паколькі з'яўляюцца менавіта сярэднімі. Таму што людзі імгненна пазнаюць у яго паводзінах свае стэрэатыпы, запатрабаванні».

Ад сябе дадам, што «сярэдні чалавек» не толькі мае больш шанцаў быць зразумелым для электаральнай «большасці», але і са свайго боку здольны на інтуітыўным узроўні адгукацца на яе запыты, г. зн. плысці па плыні вады. Таму не варта перабольшваць унёсак дыпломаў гісторыка і эканаміста ў пераканаўчую перамогу АП на першых прэзідэнцкіх выбарах. На «глыбіню разумення падзей» яны ніяк не паўплывалі. Дый грамадскі запыт у той момант патрабаваў ад палітыка не глыбіні, а здольнасці трымацца на паверхні. Той, хто гэтага не зразумеў, — захлынуўся.

Падмацую сказанае адпаведным выказваннем самога АП: *«Мне хватило какой-то интуиции порой не сделать так, как делал весь мир. Мне говорили: да куда ты идешь, ты же один, посмотри, в каком направлении движемся. Я приходил, садился и думал, день, ночь думал: а если я неправильно делаю, народ проклянет. Политика — это искусство возможного, а эти возможности создает общество, то есть вы, извините за эту философию. Исходя из этих возможностей, которые вы создаете для меня, я и провожу соответствующую политику».*

Уменне плысці па цячэнню — гэта сінонім «умення аптымальна ў кожным канкрэтным выпадку распарадзіцца вышэйшай уладай». Але на што вялікія і маленькія напалеоны накіроўваюць сваю ўладу? Перш за ўсё, на ўмацаванне… сваёй улады. Калі для гэтага спатрэбіцца распачаць рэформы — яны іх распачынаюць. Калі ж фармуецца грамадскі запыт на стабільнасць — яны асвойваюць ролю яе гарантаў.

Чаму, да прыкладу, Ельцын звярнуўся да рэгіянальных эліт з заклікам: «Бярыце столькі суверэнітэту, колькі можаце праглынуць»? Уся справа ў тым, што захаванне ўладнага цэнтра ва ўмовах агульнай дэстабілізацыі было магчыма толькі пры ўмове праважавання калектыўнага эгаізму ў мэтах яго ізаляцыі і змяншэння. Любыя актыўныя кіраўнічыя спробы цэнтральнай улады ў падобных умовах прывялі б да яе дэстабілізацыі, а затым і распаду.

## Парадоксы статыстыкі

У палітычнага папулізму — бо менавіта пра такі тып палітыкі гаворка ішла вышэй — ёсць свая мяжа. Эфектыўна вырашаючы бягучыя ўнутраныя задачы, звязаныя з утрыманнем улады ў рэжыме «тут і цяпер», папулізм робіцца неканкурэнтаздольным на знешніх палітычных рынках.

Зразумела, што знешняя неканкурэнтаздольнасць палітыкамі-папулістамі ўсведамляецца не адразу. Гуляць жа на апярэджанне яны не здольныя. Але немагчыма да бясконцасці адкладаць надыход часу «Ч», калі неабходна здзейсніць пераход ад утрымання ўлады за кошт патурання патэрналісцкім запытам «большасці» да ўтрымання ўлады за кошт павышэння эфектыўнасці эканомікі (мадэрнізацыі).

Крыху статыстыкі. У 2011 годзе рэальныя прыбыткі насельніцтва зменшыліся на 1%, што не перашкодзіла айчынным аўтамабілістам павялічыць спажыванне маторнага паліва на 32,9%. У 2012 годзе прыбыткі падскочылі на 21%, а тэмпы росту спажывання паліва зменшыліся ў 2,5 разу, да 13%. У I квартале бягучага года зафіксавана абсалютнае зніжэнне спажывання паліва ў Беларусі: –5,6%. І гэта пры росце прыбыткаў на 21,8%!

Аўтамабіль для мільёнаў беларусаў даўно стаў не раскошай, а сродкам перамяшчэння. Што да маторнага паліва, то эканамісты адносяць яго да цяжка замяняльных тавараў (практычна незаменных). Таму парадокс зваротнай залежнасці попыту на паліва ад росту прыбыткаў аўтамабілістаў мае патрэбу ў тлумачэнні. Не выключана, што ён выкліканы не змяншэннем колькасці аўтамабіляў і не зніжэннем іх сярэдняга прабегу, а скарачэннем колькасці аўтамабілістаў…

Аналагічная парадаксальная залежнасць назіраецца і па спажыванні алкагольных напояў: у 2011 годзе — рост на 8,8%, у 2012-м — зніжэнне на 6,3%, у I квартале 2013-га — зніжэнне на 6%! Рымейк гарбачоўскай антыалкагольнай кампаніі ў рэспубліцы, здаецца, не адбываецца. Дык адкуль такая дынаміка?

Эміграцыя працаздольных грамадзян — яскравая прыкмета неканкурэнтаздольнасці краіны. Супраць лому неканкурэнтаздольнасці палітычны папулізм бездапаможны, а для эканамічнага папулізму неабходныя рэсурсы. Як гаворыцца ў адным старым анекдоце: «Каб вылузвацца, крылы трэба мець».

Нідзе і ніколі ад добрага жыцця рэформы не пачыналіся. Настрой жа палітычнай эліты на рэформы прама прапарцыйны ўзроўню страхаў, якія генеруюцца прадчуваннямі страты ўлады. Але да крытычнага ўзроўню яшчэ далёка, і галоўны герой маёй «Азбукі паліталогіі» не страціў веру ў творчы патэнцыял бюракратыі, якая *«может обеспечить прорыв в группу лидеров»* (Пасланне–2013).

Аднак паспяховых мадэрнізацыйных прарываў, дасягнутых выключна за кошт высілкаў дзяржаўнай бюракратыі, у гісторыі не зафіксавана. Без актыўнага ўцягвання грамадства тут не абысціся. Але для гэтага ўладзе давядзецца адмовіцца ад звыклага руху па цячэнню, бо адмовіцца ад дзяржаўнай апекі «большасць» не ў стане. Досведу ж руху супраць плыні ўлада не мае.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# КАГО БЕРАЖЭ МІЛІЦЫЯ...

Сяргей ПУЛЬША

**Сітуацыя вымушае канстатаваць, што неадэкватна жорсткія дзеянні міліцыі — гэта не выключэнне з правілаў і не нейкая рэгіянальная асаблівасць. Міліцыя збівае грамадзян па ўсёй краіне. Праваабарончая ўстанова «Платформ Інавэйшн», якая збірае і сістэматызуе гэтыя з'явы, канстатуе менавіта паўсюдную разняволенасць супрацоўнікаў міліцыі.**



Фота www.platforma.org



Павел Кавалёнак і Вячаслаў Гаўрыленка

30 сакавіка 2013 года Кавалёнак і Гаўрыленка былі затрыманыя супрацоўнікамі Першамайскага РУУС у краме «Радзівілаўскі» па падазрэнні ў дробным крадзяжы. Іх адвялі ў падсобнае памяшканне крамы, надзелі наручнікі і пачалі жорстка збіваць. Збівалі прыкладамі і ботамі. Стан Паўла, які, з яго слоў, нічога і не ведаў пра крадзеж, а проста падышоў спытаць, што адбываецца, аказаўся настолькі цяжкі, што яго адвезлі ў шпіталь. У яго канстатавалі пералом лобнай пазухі і страсенне мозгу.

## Міліцэйскае бязмежжа

Першая справа, якая прыцягнула ўвагу грамадскасці, — гэта шматгадзіннае збіццё Васіля Сарочыка, які падвергнуўся катаванням у будынку Ленінскага РУУС Мінска. Сарочыка вымушалі прызнацца ў злачынстве, якога ён не здзяйсняў. Дзякуючы таму, што гэтая сітуацыя выйшла на паверхню, Следчы камітэт усё ж распачаў крымінальную справу ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі. Але потым закрыў яе «за адсутнасцю складу злачынства». То бок, збіццё ў РУУСе, «ластаўка», прымяненне спецсродкаў з боку міліцыі да пажылога чалавека не вартае расследавання.

Пасля таго, як гэта справа атрымала грамадскі рэзананс, факты збіцця і катаванняў супрацоўнікамі міліцыі пасыпаліся на «Платформ Інавэйшн» як з торбы. У Лідзе двое братоў Шкурко былі збітыя супрацоўнікамі міліцыі проста на дыскатэцы, да таго ж ім у твар распылялі пярцовы газ. Міліцыянты нават не адразу скіраваліся ў Лідскі РУУС, а збівалі хлапцоў спачатку ў машыне, потым вывезлі ў бязлюднае месца і вычвараліся там... Вынікам стаў толькі адміністратыўны пратакол на аднаго з братоў. Але пасля скаргаў маці ўсім магчымым кіраўнікам, ад міліцыі да пракуратуры, каб апраўдаць свае дзеянні, на аднаго з братоў спрабуюць завесці крымінальную справу за супраціўленне супрацоўнікам міліцыі!

Віктар Ламека з Зэльвы быў збіты супрацоўнікамі ДАІ Слоніма. Спроба абскардзіць сфальсіфікаваныя праколы аб здзейсненым ім адміністрацыйным правапарушэнні скончылася для Віктара збіццём, лаянкай і складаннем у дачыненні да яго дадаткова чатырох пратаколаў аб адміністрацыйных правапарушэннях. Больш за год Віктар спрабуе абскардзіць вынесеныя ў дачыненні да яго пастановы і пакараць вінаватых у збіцці, аднак суды і пракуратуры, пачынаючы з раённых і заканчваючы Генеральнай пракуратурай і Вярхоўным судом, апраўдваюць дзеянні супрацоўнікаў ДАІ.

Ілля Зубеня быў збіты супрацоўнікам Ленінскага РУУС Мінска. Правёўшы двое сутак ва ўстановах органаў унутраных спраў, не атрымаўшы медыцынскай дапамогі, нягледзячы на відавочныя сляды збіцця і сімптомы страсення мозгу, Ілля быў прызнаны вінаватым па трох артыкулах КаАП РБ, але прысуджаны толькі да штрафу! У цяперашні час Зубеня абскардзіў вынесеныя ў дачыненні да яго пастановы па артыкулах 23.4 (непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў) і 23.5 (абраза службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў) Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго, па факце збіцця яго супрацоўнікам міліцыі вядзецца праверка.

Сяргей Хачатуран і Віталь Ганчар з Дзяржынска былі закутыя ў кайданкі і жорстка збітыя супрацоўнікамі Дзяржынскага РУУС. Наступствамі дзеянняў супрацоўнікаў міліцыі сталі страсенне мозгу і шматлікія траўмы на тварах і целах хлопцаў.

Нават не знайшоўшы час выслухаць сведак абароны, суддзя Крупец прывёў сведак-міліцыянтаў у стан афекту, калі яны ўжо адкрыта прызнавалі, што і пратаколы, і пастановы складаліся ў адсутнасці Ганчара і Хачатурана, запісы ў пратаколах «ад подпісу адмаўляюся» і «ўласнаручныя» подпісы выкананы «невядомымі», то бок, пратаколы сфальсіфікаваныя. Суд спыніў у дачыненні да хлопцаў адміністрацыйныя справы, аднак суддзя ўгледзеў у дзеяннях хлопцаў прыкметы злачынства і паспяшаўся далучыць матэрыялы адміністрацыйных спраў да матэрыялаў спраў крымінальных.

Прычым, у распараджэнне «Платформ Інавэйшн» трапіў дадатковы пратакол, на якім невядомы напісаў суддзі: «Гэта па справе супраціву работнікам міліцыі, пратакол, каб апраўдаць дзеянні ППС». То бок, нейкая асоба загадала суддзі вырашыць справу так, каб прыкрыць злачынныя дзеянні міліцыянтаў.

А колькі такіх выпадкаў не становяцца галоснымі? Масавасць прымянення сілы і здзекаў у дачыненні да грамадзян супрацоўнікамі міліцыі набываюць агульнарэспубліканскі маштаб. Але, што яшчэ страшней, суддзі, пракуроры і самі супрацоўнікі МУС усімі сіламі спрабуюць апраўдаць дзеянні міліцыянтаў, якія ў выніку пазбягаюць адказнасці.

## Чаму ж міліцыя лютуе?

Кіраўнік асветніцкага аб'яднання «Платформ Інавэйшн», па ініцыятыве якога грамадскасць даведваецца пра катаванні ў міліцыі, Андрэй Бандарэнка кажа, што ў першую чаргу гэта тлумачыцца адсутнасцю любога, хоць якога кантролю за дзеяннямі супрацоўнікамі міліцыі, а з іншага боку — падмацоўваецца тым, што ў міліцыю ідуць людзі, як правіла, з нізкім узроўнем адукацыі, з няўстойлівымі маральнымі прынцыпамі, і ўвогуле, па словах Бандарэнкі, выпадковыя людзі, далёкія ад паняцця ўнутраных спраў і законнасці.



Андрэй Бандарэнка

Праблема ўсёдазволенасці міліцыянтаў, па меркаванні праваабаронцы, вылезла з праблемаў палітыкі. А дакладней — палітычна матываваных дзеянняў супрацоўнікаў міліцыі ў дачыненні да апанентаў улады.

«Гэтая праблема з'явілася напрыканцы 1990-х — напачатку 2000-х гадоў, калі супрацоўнікі міліцыі пачалі затрымліваць палітычных апанентаў без якіх-небудзь законных падстаў. Не апранутыя ў форму, не прадстаўляючыся, збіваючы, проста хапалі людзей на вуліцах падчас мітынгаў і акцый. Прычым такая палітычная матываванасць дзейнічала і ў судах. Калі прыводзілі чалавека з пратаколам, а сведкамі былі толькі супрацоўнікамі міліцыі, то суддзі разумелі: перад імі палітычны. Гэтага было дастаткова, каб накіраваць чалавека на 10–15 сутак у ізалятар», — згадвае Бандарэнка.

Гэта адыграла вельмі вялікую ролю ва светаўспрыняцці супрацоўнікаў міліцыі. І яны пачалі экстрапаляваць сябе на тых герояў, якім закон быў не пісаны. І з цягам часу нават шараговыя супрацоўнікі міліцыі зразумелі, што яны могуць беспакарана рабіць усё, што заўгодна, у дачыненні да любых грамадзян. То бок тое, на што закрываліся вочы ў дачыненні да апазіцыі, хваробай перакінулася на ўсіх грамадзян, незалежна ад палітычных поглядаў і прыхільнасці або непрыхільнасці да існуючага ладу.

Немагчымасць абараніцца ў судовым парадку, па меркаванні праваабаронцы, таксама выцякае з тых жа працэсаў, якія праходзілі напачатку стагоддзя. Па-першае, гэтаму спрыяе так званая прэзумпцыя даверу супрацоўнікам міліцыі. Суды звыклі скарыстоўваць гэтую прэзумпцыю даверу падчас працэсаў над палітычнымі, калі сведкамі выступалі толькі міліцыянты, і на падставе іх і толькі іх сведчанняў выносіць абвінаваўчыя прысуды. А калі гэта пачало тычыцца звычайных грамадзян, то суды сталі працаваць па старой завядзёнцы.

## Свае сваіх прыкрыюць...

За станам законнасці павінна наглядаць пракуратура, а Следчы камітэт можа ўзбуджаць крымінальныя справы па факце злачынства. Але ў адносінах да супрацоўнікаў міліцыі гэта заканчваецца нічым. Так здараецца, па меркаванні Бандарэнкі, таму, што пракуратура ператварылася ў фармальную структуру, а СК — гэта тыя ж міліцыянты.

«Так, мы мелі спадзяванні на тое, што з утварэннем Следчага камітэта будзе неяк разарванае кола, калі злачынствы супрацоўнікаў міліцыі павінны расследаваць іх калегі. На жаль, такога не адбылося. Следчыя камітэты сфармаваныя з былых следчых РУУСаў, якія ўсё жыццё прарабілі са сваімі калегамі і ў цеснай звязцы з пракуратурай. Што ж тычыцца самой пракуратуры, то функцыя па нагляду за законнасцю ў ёй цалкам стала фармалізаванай і другаснай. Заўважце, што ў судовых працэсах пракуратура заўсёды займаецца падтрымкай дзяржаўнага абвінавачання. То бок, першая функцыя пракуратуры — пасадзіць чалавека, а не назіраць за законнасцю ягонага абвінавачвання», — кажа Бандарэнка.

Такім чынам, справа тут не ў адных міліцыянтах. Справа ва ўсёй нашай сістэме, якая спачатку дала неафіцыйны і нефармалізаваны дазвол на супрацьпраўныя дзеянні спачатку ў дачыненні да часткі грамадзян, потым з часткі гэта перакінулася на ўсё грамадства. І ўжо зараз, з цягам часу, сістэма набыла настолькі моцнае інерцыйнае дзеянне, што гэта стала вялікай праблемай.

## Кадры не ўсё вырашаюць

Згодна сайту ГУУС Мінгарвыканкама, на працу патрабуюцца людзі для заняцця амаль усіх міліцэйскіх спецыяльнасцей: ад тэлефаністаў 3 класа ў службу «102» да оперупаўнаважанага аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі (Партызанскі РУУС). Гэта нягледзячы на тое, што яшчэ толькі пачалася рэформа МУС, у часе якой плануюць скарачэнні некаторых службаў.

Зразумела, праца міліцыянта — вялікая нагрузка, не вельмі вялікія грошы і ненармаваны працоўны дзень. Не ўсе такую нагрузку вытрымаюць. Па статыстыцы за мінулы год, менш за год на пасадзе ўчастковых інспектараў праслужылі 31% супрацоўнікаў міліцыі, 1–3 гады — 22%, 3–5 гадоў — 16%, 5–10 гадоў — 20%, звыш 10 гадоў — 10%.

Але ж тыя, хто пайшоў у міліцыю, ведалі, куды шлі! І цяжкая праца не павінна быць апраўданнем для беспакаранасці міліцыі.

## Што раяць спецыялісты

Як палепшыць імідж нашай міліцыі? Як скараціць колькасць выпадкаў садызму і бязмернага ўжывання сілы?

Найперш, трэба паламаць сістэму беспакаранасці. Па меркаванні былога следчага пракуратуры Алега Волчака, для гэтага дастаткова толькі прыбраць з заканадаўства прэзумпцыю даверу супрацоўніку міліцыі ў судзе. Тады, па ягоным меркаванні, колькасць выбітых прызнанняў, колькасць ілжэсведчанняў і фальшывых пратаколаў рэзка ўпадзе.

Па меркаванні Бандарэнкі, міліцыя, у першую чаргу, не павінна ўхіляцца ад прызнання ўласных памылак. «Яна павінна рэагаваць на падобныя факты і паказальна караць тых, хто запляміў гонар мундзіра», — лічыць Бандарэнка.

Ён таксама прапануе міліцыі ўвесці ў МУС прыём кадраў праз гутарку з псіхолагам. Каб у далейшым людзі, непрыдатныя для службы ў міліцыі, у яе не траплялі. Гэта пазбавіць міліцыю і ад садыстаў у пагонах, і ад тых, хто па псіхічным складзе не можа вытрымаць міліцэйскія нагрузкі. Такім чынам, значна палепшыцца якасць кадраў і паменшыцца цякучка ў шэрагах міліцыі.

Але праваабаронцы, на жаль, не спадзяюцца, што ў гэтым рэчышчы будзе дзейнічаць рэформа МУС. Бо паламаць сістэму сама сістэма не здольная. Сістэму, як кажуць, трэба проста змяняць — цалкам і ўсю.

## 12 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

**БЕЛАРУСЬ 1**

**07.20** Ваенная кінааповесць «У бой ідуць адны «старыя» (СССР).
**09.00, 12.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія). Заключная серыя.
**10.45** Медычныя таямніцы.
**11.15** Кулінарная дыпламатыя.
**11.45** Нашы.
**12.10** Камедыя «Тыя, што не паддаюцца» (СССР).
**13.50** Камедыйны серыял «Сваты-6. За кадрам» (Расія-Украіна).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Анімацыйны фільм «Тры волаты і Шамаханская царыца» (Расія).
**17.00** Заўтра - гэта мы!
**17.30** Eurovision. Вынікі тыдня.
**17.50** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.55** Гістарычны баявік «Арол Дзявятага легіёна» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Камедыйны серыял «Сваты-6. За кадрам» (Расія-Украіна).
**23.35** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія). Заключная серыя.

**АНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Аляксандра Пахмутава. Жанчына, якую спяваюць».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.10** «Андрэй Узнясенскі. Настальгія па сучаснасці».
**13.10** Фільм «Мужыкі!.».
**15.00** Асяроддзе пасялення.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Драма «Я-Сэм».
**18.45** АНТ прадстаўляе: «Эстрадны кактэйль».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Здабытак Рэспублікі».
**23.15-01.20** Прэм'ера. Рамантычная камедыя «Занадта крутая для цябе».

**СТВ**

**06.30** «Салдаты». Серыял.
**08.15** Фільм «Прарок». ЗША, 2007 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Я кахаў вас больш за жыццё». СССР, 1985 г.
**14.25** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Прэм'ера. Фільм «Маніпуляцыя». Швейцарыя - Германія, 2010 г.
**22.30** Прэм'ера. «Пякельная кухня - 2».
**23.50** Фільм «Наладчык». Расія - Украіна, 2004 г.

**БЕЛАРУСЬ 2**

**08.05** Мультфільмы.
**08.45** Пазакласная гадзіна.
**09.10** Тэлебарометр.
**09.15** Пра мастацтва.
**09.40** Псіхалагічная драма «Матч-пойнт» (Вялікабрытанія - ЗША- Люксембург).
**12.05** Камедыйная меладрама «Таймшэр» (Германія - ЗША).
**13.55** Тэніс. Мадрыд. Жанчыны. Фінал. Прамая трансляцыя.
**16.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Фулхэм - Ліверпуль. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Славакія - Расія. Прамая трансляцыя. У перапынку. 21.30 Спортлато 5 з 36,.
**21.35** КЕНО.
**22.30** Навіны надвор'я.
**23.05** Спорт-кадр.
**23.45** Трылер «Добры злодзей» (Францыя-Вялікабрытанія-Ірландыя).

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Жонка генерала» (2011 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.05** «Смехапанарама».
**11.40** «У свеце жывёл».
**12.15** Фільм «Сыходзячы - сыходзь».
**14.00** Весткі.
**14.10** «Рускі мужык Міхась Ульянаў». Аўтарская праграма.
**15.45** «Маршал песні».
**16.40** Фільм «Загадана жаніць» (2011 г.).
**18.40** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі.
**20.25** Фільм «Не сыходзь» (2012 г.).
**23.45** Фільм «Скарб» (2007 г.).

**НТВ**

**06.25** Фільм «Крэўныя браты».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** Вострасюжэтны серыял «Новае жыццё шпіка Гурава».
**19.00** Сёння.
**19.20** Вострасюжэтны серыял «Новае жыццё шпіка Гурава».
**23.35** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.
**00.20** «2-я ўдарная. Войска Уласава».

**МИР**

**04.25** Даведнік.
**05.00** Скарбы Эрмітажа.
**05.30** Мультфільмы.
**07.35** Мільён пытанняў пра прыроду.
**07.50** Смешарыкі.
**08.05** Ведаем рускую.
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Даведнік.
**09.35** Ежа.
**10.05** Незорнае дзяцінства.
**10.30** Хенна. Меладрама. Індыя, 1991.
**13.45** У свеце мінулага. Помста саркафага. Дакументальны фільм.
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Яшчэ не разам.
**15.50** Развітальнае рэха. Тэлесерыял. Расія, 2003.
**20.00** Разам.
**21.00** Развітальнае рэха. Тэлесерыял. Расія, 2003.
**21.35** Палёт даўжынёю ў жыццё. Драма. ЗША, 2005.
**23.30** Хенна. Меладрама. Індыя, 1991.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**07.45** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 19 серыя.
**08.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.40** Зона «Свабоды».
**09.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.40** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**10.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.20** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.45** Без рэтушы: «З крыжам па крыж», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**11.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**11.30** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.45** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**12.05** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**12.35** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 19 серыя.
**13.05** «Час гонару», серыял: 30 серыя.
**13.50** «Ночы і дні», серыял: 12 серыя.
**14.35** «Каралеўства шчасця – Бутан: дзяржава ў Гімалаях», дак. фільм, 2008 г., Германія.
**15.20** «Маланка аркестр», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**15.35** «Радаводны знак», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**15.50** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Dali».
**16.00** «Гэта я, злодзей», дэтэктыўная драма, 2000 г., Польшча.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Невядомая Беларусь: «Зямля ў палоне», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.00** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Бункеры Трэцяга Райху»: ч. 1.
**19.55** Дакументальная гадзіна: «Ляонаў з Мяховіцаў», дак. фільм, 2001 г., Расія.
**20.25** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоу).
**22.45** Фільматэка майстроў: «Запавет», маст. фільм, 2007 г., Сербія–Францыя.
**00.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 30.
**01.00** Два на два (тэледыскусія).
**01.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

---



БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

ГЕАПАЛІТЫКА

# ГАЛІЦЫЯ АДНАЎЛЯЕ СЕПАРАТЫЗМ

**У бурным палітычным жыцці Украіны цікавая падзея — заснаваны аргкамітэт Украінскай галіцкай партыі (УГП). Пра тое, ці збіраюцца галічане стварыць асобную дзяржаву, журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае кіеўскі палітолаг Юрый Паповіч.**

***— Пра праект УГП стала вядома яшчэ 16 красавіка. Як піша прэса, у адным з гарадоў на Львоўшчыне адбылася нарада, на якой была агучана ідэя УГП. Хто такія стваральнікі новай партыі, і чаго яны хочуць?***

— Заснавальнікамі Украінскай галіцкай партыі з'яўляюцца прадстаўнікі заходнеўкраінскай інтэлігенцыі: публіцыст Арэст Друль, культуролаг і пісьменнік Ігар Мельнік, журналіст Андрэй Кваткоўскі, грамадскі дзеяч Васіль Палойка і іншыя. Напэўна, Палойка — адзіны з пералічаных, хто мае палітычны досвед. У яго за плячыма кіраўніцтва львоўскай абласной арганізацыяй партыі зялёных. Нягледзячы на тое, што ў прэсе УГП часта называюць сепаратыстамі, праграмныя арыенціры аргкамітэту партыі вельмі памяркоўныя. «Місію Галіцыі» бацькі-заснавальнікі УГП бачаць у тым, каб рэгіён стаў прыкладам для іншых рэгіёнаў Украіны.

Па словах таго ж Палойкі, УГП лічыць сваім ідэалам баварскі Сацыяльна-хрысціянскі саюз (CSU), які, падтрымліваючы на федэральным узроўні хрысціянскіх дэмакратаў, дзейнічае выключна ў Баварыі. Праўда, аўтары УГП прызнаюць: паколькі яшчэ не было ўстаноўчага з'езду, партыя знаходзіцца на этапе фармавання. Гэта значыць, што ідэалагічныя прынцыпы будуць дапаўняцца і пашырацца. Хутчэй за ўсё, будзе пастаўлена пытанне пра федэралізацыю Украіны. Увогуле, большую ўвагу стваральнікі УГП надаюць не ідэалогіі, а новай мадэлі, па якой павінна будавацца УГП.

***— Наколькі можна зразумець, мы маем справу з чарговай спробай стварыць ва Украіне ўплывовую партыю, якая можа быць цалкам выключана з арбіты ўплыву алігархічных кланаў. У чым ноў-хаў галічан?***

— Ёсць некалькі фішак. Папершае, рэгіяналізм. Ва Украіне дастаткова шмат рэгіянальных палітычных праектаў, і яны ў прынцыпе паспяховыя. Можна згадаць той жа Крым. Па-другое, у Галіцыі гістарычна вельмі моцная школа палітычнага рэгіяналізму. Створаныя на пачатку XX стагоддзя першыя мясцовыя ўкраінскія партыі мелі выразна рэгіянальны характар, адстойвалі інтарэсы ў межах Аўстра-Венгерскай імперыі, а пасля — у межах Другой Рэчы Паспалітай.

Стаўка робіцца на тое, каб партыя сама фінансавала сябе за кошт унёскаў сваіх сяброў. Як не дзіўна, на лакальным узроўні ў вельмі карумпаванай Украіне сапраўды існуюць такія нізавыя грамадзянскія арганізацыі. Па іх аналагу мяркуецца стварыць больш шырокія структуры. Асобны пункт тычыцца фігуры лідара. Вядома, што амаль усе партыі ва Украіне — партыя лідарскія. УГП не плануе мець канкрэтнага лідара. Будзе прымяняцца перыядычная ратацыя кіраўнікоў, каб, па словах актыву УГП, пастаянна выбіраць найбольш маральных і эфектыўных.

***— Ці можна лічыць стварэнне УГП своеасаблівай рэакцыяй грамадства на крызіс старых палітычных сіл Заходняй Украіны?***

— Крызіс сапраўды існуе. Гэта добра прадэманстравалі пазатэрміновыя выбары ў мясцовыя саветы Львоўскай вобласці ў жніўні мінулага года. На адным з участкаў кандыдат ад Партыі рэгіёнаў набраў 96 працэнтаў. Увогуле, палітычнае жыццё ў рэгіёне пабудавана на супрацьстаянні сяброў агрэсіўнага аб'яднання



«Свабода» і рэштка аранжавых і нацдэмаў. Праект УГП — гэта ў тым ліку спроба перагрупоўкі нацыянал-дэмакратаў, якім не падабаюцца экстрэмісцкія выхадкі цягнібокаўцаў (Алег Цягнібок — лідар «Свабоды»). Стваральнікі УГП, сярод якіх львоўская культурная эліта, лічаць, што «Свабода» — гэта левы рух люмпенаў. Сваімі прыхільнікамі заснавальнікі УГП называюць грамадзянскую супольнасць, малы і сярэдні прыватны бізнэс. Ужо зараз палітолагі не выключаюць, што галічане могуць стаць сузаснавальнікамі новага холдынгу «Правыя» — аб'яднання шэрагу аранжавых партый вакол фігуры Сяргей Бандарчука (былога старшыні палітсавету партыі «Наша Украіна»).

**Варта ўзгадаць, што падчас прэзідэнцкай кампаніі 2010 года вядомы пісьменнік Юры Андруховіч выступаў за стварэнне на базе заходнеўкраінскіх абласцей асобнай дзяржавы**

***— Як у Кіеве сустрэлі рэанімацыю галіцкага аўтанамізму?***

— Навіна выклікала вялікі інтарэс, аднак пакуль нейкіх заяў з боку вядомых палітыкаў няма. Што тычыцца грамадскай думкі, дык, верагодна, яна будзе негатыўнай. Варта ўзгадаць, што падчас прэзідэнцкай кампаніі 2010 года вядомы пісьменнік Юры Андруховіч выступаў за стварэнне на базе заходнеўкраінскіх абласцей асобнай дзяржавы. Кіеўская свядомая інтэлігенцыя моцна яго крытыкавала. У гэтым асяроддзі папулярны міф: аддзяленне Галіцыі дазволіць Расіі лёгка ўцягнуць Украіну ў свае геапалітычныя гульні.

Акрамя таго, некаторыя лідары Партыі рэгіёнаў таксама заклікаюць да таго, каб надаць Заходняй Украіне дзяржаўную самастойнасць. Яны лічаць, што постсавецкая ўкраінская нацыянальная ідэнтычнасць (фундаментальныя ўяўленні ўкраінцаў пра сябе) не можа сфармавацца з-за супрацьлеглага бачання ўкраінскай ідэнтычнасці на Захадзе і Усходзе. Дайшло да таго, што цяперашні міністр культуры Дзмітрый Табачнік выдаў фундаментальную працу па гісторыі галічан, каб давесці іх непадабенства да ўкраінцаў нават на ўзроўні генаў. У сувязі з гэтым некаторыя жартам называюць Табачніка ідэолагам галіцкага сепаратызму.

***— Партыйнае будаўніцтва УГП адбываецца на фоне скандалу вакол намеру польскіх правых прыняць рэзалюцыю, якая абвяшчае АУН–УПА злачыннымі арганізацыямі. Гэта неяк паўплывае на перспектывы УГП?***

— Толькі з улікам таго, што скандал спрыяе росту рэгіянальнай свядомасці заходніх украінцаў, бо шмат хто з іх пазітыўна ацэньвае дзейнасць бандэраўскіх фармаванняў. Па-сутнасці, галічане вельмі ізаляваны ў гэтай дыскусіі. Партыя рэгіёнаў вуснамі харкаўскага губернатара Міхаіла Добкіна не толькі вітала ініцыятыву польскіх правых, аднак нават заклікала стварыць у Еўропе візавы «чорны спіс для цяперашніх бандэраўцаў з партыі «Свабода». Дэмакратычныя партыі ў сваю чаргу не жадаюць абвастраць адносіны з Варшавай напярэдадні намечанага на восень падпісання дамовы аб асацыяцыі Украіны з ЕС. Такім чынам, ствараецца ўражанне, што Кіеву няма справы да Львова.

У дадатак, мясцовая прэса шмат спекулюе на гэтым пытанні. Абывацеля Заходней Украіны пужаюць тым, што ў чорны спіс трапяць таксама ўнукі і праўнукі чальцоў АУН-УПА і нават усе ўкраінцы з прапіскай у населеных пунктах Заходняй Украіны.

Лагічным следствам такога ідэйнага разрыву ў тым ліку стала рашэнне ўладаў Львова адмяніць святкаванне 9 мая. Гэта больш небяспечна за феномен УГП, паколькі сітуацыя трошкі іншая, чым была раней. Маю на ўвазе тое, што Партыя рэгіёнаў з-за сваёй эканамічнай палітыкі ўжо не можа мабілізаваць свой электарат нават пад патрыятычнымі лозунгамі. Як паказалі апазіцыйныя акцыі «Паўстань, Украіна!», сярэднестатыстычны жыхар Заходняй Украіны трымаецца далей ад актыўнай палітыкі. Таму сёння паўзучы працэс расколу адбываецца на фоне большай абыякавасці грамадства, што робіць яго наступствы непрадказальным.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У Беларусі, дзе больш за мільён чалавек, і кожны дзясяты населены пункт знаходзяцца на тэрыторыі, забруджанай радыенуклідамі, улады прынялі рашэнне развіваць ядзерную энергетыку. Яны не раіліся з беларусамі, проста паставілі іх перад фактам. Уласная АЭС у Астраўцы будуецца з апярэджаннем графіка, у парушэнне беларускага заканадаўства — без архітэктурнага праекта і эканамічнага абгрунтавання, за расійскі крэдыт у 10 мільярдаў долараў. Прапаганда паўтарае пра бяспеку праекта «Расатама» і таннасць атамнай энергіі, але нічога не кажа пра тое, дзе на параўнальна невялікай тэрыторыі Беларусі размесціцца сховішча радыеактыўных адкідаў, і ў што абыдзецца іх утылізацыя і закрыццё АЭС у будучыні. Гэтая цынічная палітыка вядзе да таго, што ядзерная пагроза яшчэ доўга будзе вісець над Беларуссю.

**Deutsche Welle (Германія)**

Лукашэнка зацікаўлены ў захаванні добрых адносін з Казахстанам для стрымлівання ціску Расіі па асобных пытаннях. У прыватнасці, больш блізкай і больш хуткай інтэграцыі. Гэта беларускі прэзідэнт падкрэсліваў раней, гэта ж тэма прагучала зноў. Лукашэнка адзначыў, што спачатку неабходна «пабудаваць першы паверх» у гэтай інтэграцыі, а толькі затым паслядоўна і паступальна рухацца далей, з чым Серык Ахметаў тут жа пагадзіўся. Пад першым паверхам Лукашэнка мае на ўвазе стварэнне адзіных умоў гаспадарання ў трох краінах, у тым ліку адзіныя кошты на энерганосьбіты. Толькі пасля гэтага беларускі прэзідэнт абяцае падумаць наконт валютнай інтэграцыі. У той жа час эксперты робяць выснову, што для Расіі гэты праект (Мытны саюз) стратны эканамічна, але выгадны геапалітычна.

**«Рэспубліка» (Казахстан)**

Далёка не рытарычнае пытанне: хіба можна кіраўніку саюзнай дзяржавы не выконваць публічна агучаных абавязацельстваў? Адмова ад супрацоўніцтва з ленінградскімі партамі, дзе ўжо сталі рыхтавацца да прыёму беларускіх грузаў, уклалі процьму сродкаў, зрэшты, не адзіная забава беларускага кіраўніка. У інтэрв'ю, дадзеным тыдзень таму, ён яшчэ раз заклікаў перш за ўсё Расію «не моцна нахіляць братоў-партнёраў», тлумачачы сваё нежаданне выконваць сумесна распрацаваную праграму аб'яднання аўтамабільных гігантаў — «БелАЗ» і «КамАЗ». А вось адкрытае маніпураванне сваімі абавязацельствамі саюзнай дзяржавы (набыццё акцый порту ў Клайпедзе) — ці не стаіць за гэтым імкненнем пакінуць у таямніцы праўдзівыя аб'ёмы экспарту нафты і «растваральнікаў» (для краіны, якая не мае практычна ніякіх значных аб'ёмаў здабычы «чорнага золата», мільённых аб'ёмы экспарту — гэта, па меншай меры, дзіўна), якія даюць у беларускі бюджэт мільярды долараў? Пытанне патрабуе самага сур'ёзнага вывучэння. На карысць абедзвюх братэрскіх краін, якія будуюць адзіную саюзную дзяржаву, дзе не павінна быць цёмных месцаў і недаказанасці.

**«Накануне» (Расія)**

Беларусь хоча далучыцца да Сусветнай гандлёвай арганізацыі, прычым як мага хутчэй. Аднак не сакрэт, што галоўнай перашкодай на шляху да гэтага застаюцца нацягнутыя адносіны краіны з ЗША і Еўрапейскім саюзам, якія рэзка крытыкуюць беларускі ўрад за яго аўтарытарныя паводзіны. Але зараз беларуская афіцыйная асобы настроены аптымістычна. На іх думку, заходнія краіны гатовыя даць Беларусі зялёнае святло.

**«The Financial Times» (Вялікабрытанія)**

Нічога прынцыпова новага не адбываецца і ў двухбаковых адносінах Беларусі і Казахстана. Па-ранейшаму казахстанскія доларавыя мільянеры і мільярдэры аддаюць перавагу інвеставаць куды заўгодна, але не ў Беларусь. Сярод сотняў рэзідэнтаў беларускіх свабодных эканамічных зон кампаній з удзелам казахстанскага капіталу няма зусім. Зрэшты, нічога не вядома і пра беларускія інвестыцыі ў Казахстан. Расійскі бізнэс цікавасць да Беларусі праяўляе. Але іх актывы перыядычна экспрапрыююцца з-за непрадказальнага характару Бацькі.

**«Укррудпром» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### БАЛІВІЯ. ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ПРЭТЭНЗІІ ДА ЧЫЛІ

Урад Балівіі звярнуўся ў міжнародны суд у Гаагу з іскам да Чылі. Ла-Пас патрабуе пад Санцьяга вярнуць 400 кіламетраў узбярэжжа Ціхага Акіяна, якія перайшлі да Чылі ў выніку вайны ў 1879 годзе. Па словах балівійскага МЗС, гаагскі суд «павінен выканаць гістарычную місію, каб Балівія зноў стала марской дзяржавай». Паводле разлікаў балівійскіх эканамістаў, ужо сам факт наяўнасці партоў мог бы ўзняць нацыянальны ВУП на 1,5 працэнта. Адной з прычын, каб судзіцца з Чылі, па словах прэзідэнта Балівіі Эва Маралеса, стала нядаўняя гісторыя: «Хлопчык шасці або сямі гадоў падыходзіць да мяне і кажа: «Эва, вярні нам мора!» Што гэта паказвае? Хлопчыкі і старыя выдатна памятаюць, што Балівія нарадзілася з выхадам да мора, да Ціхага акіяну; дзяўчынкі і сталыя жанчыны выдатна памятаюць, што ёсць гістарычныя абавязак; падлеткі, студэнты, інтэлігенты, спецыялісты — увесь балівійскі народ адзіны ў тым, каб вярнуцца да мора ва ўмовах суверэнітэту».

**Паводле іспанскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. КАРЫМАЎ СУПРАЦЬ РОВАРАЎ

З сярэдзіны красавіка ў Ташкенце праводзіцца аблава на раварыстаў, якіх спыняюць, часам штрафуюць, а іх «коней» адбіраюць. Уладальнікам праката ровараў рэкамендуюць зачыніць бізнэс. У дзясяткаў людзей канфіскаваныя ровары з таго часу, калі пачалася гэтая неафіцыйная кампанія. Нават створаны спецыяльны атрад, якому даручана выпісваць штрафы і канфіскоўваць ровары ва ўладальнікаў, якія парушаюць правілы дарожнага руху. Супрацоўнікі ДАІ Ташкента, грунтуючыся выключна на вусным указанні невядома якога ведамства, аргументуюць свае дзеянні вялікай колькасцю ДТЗ з удзелам раварыстаў. Аднак прэса лічыць, што галоўная прычына «ганенняў» — «бяспека кіраўніка дзяржавы». Так званая «прэзідэнцкая траса» ў Ташкенце — самая добрая і ледзь не адзіная нармальная ў горадзе дарога. І калі прэзідэнт па ёй праязджае — усе літаральна стаяць на вушах. А раварыстаў вельмі цяжка кантраляваць, яны могуць выскачыць з завулку. Праўда, праблему бяспекі праслед раварыстаў не вырашае, пакольki, акрамя ровараў, у Ташкенце шмат ішакоў, на якіх таксама ездзяць па прэзідэнцкай трасе.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### РАСІЯ. ТАТАРЫ БАЙКАТУЮЦЬ СПАРТОВЫЯ ГУЛЬНІ



Віл Мірзаянаў

Кіраўнік самаабвешчанага татарскага ўрада ў выгнанні Віл Мірзаянаў заклікаў амерыканскіх спартсменаў адмовіцца ад удзелу ў Сусветных летніх студэнцкіх гульнях у Казані ў ліпені гэтага года. На думку радыкальнага нацыяналіста, удзел спартсменаў у спаборніцтвах, якія прадэманструюць «недасведчаным замежным гасцям дасягненні РФ на татарскай зямлі», будзе супярэчыць закону ЗША PL 86-90 «Аб паняволеных народах», у лік якіх уваходзяць і татары. Мірзаянаў кажа: «Расія праводзіць універсіяду ў Казані з мэтай давесці, што татарскія землі з'яўляюцца яе легітымнай уласнасцю». Мірзаянаў паведаміў таксама, што накіраваў зварот пракурору ЗША Эрыку Холдэру з просьбай «прадухіліць удзел амерыканскіх грамадзян у дадзенай універсіядзе як парушэнне закона ЗША», бо «афіцыйны ўдзел любога амерыканца ў гэтых спартовых гульнях супярэчыць закону, бо ігнаруе незаконны характар рускай акупацыі Ідэль-Урал (так нацыяналісты ў Казані называюць татарскую дзяржаву)». Ініцыятыва Віла Мірзаянава пакуль не знайшла падтрымкі ў асяроддзі татарскіх нацыяналістаў, якія разглядаюць правядзенне Сусветных летніх студэнцкіх гульняў у Казані як піяр рэгіёну для сусветнай супольнасці. Цікава, што тэма байкоту ўніверсіяды вельмі папулярная таксама сярод рускамоўных жыхароў Татарстана. Раней яны таксама пагражалі байкатаваць універсіяду, калі рускай мове не забяспечаць варты статус у татарскіх колах.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГРЭЦЫЯ. СУМ ПА ЧОРНЫХ ПАЛКОЎНІКАХ

Калі верыць сацыялагічным апытанням, кожны трэці грэк з настальгіяй узгадвае часы дыктатуры Чорных палкоўнікаў (1967–1974). Яшчэ 59 працэнтаў лічаць, што падчас дыктатуры крымінагенная сітуацыя была лепшай, чым зараз. Такая статыстыка, на погляд экспертаў, безумоўна, з'яўляецца эфектам эканамічнага крызісу, дакладней, крызісу каштоўнасцяў. Гэта можна пабачыць у адказах рэспандэнтаў, якім падабаюцца ў рэжыме, што нясе адказнасць за смерць сотняў грэкаў, «стабільнасць і мір». З іншага боку, палітолагі заклікаюць не панікаваць. На іх думку, жыхары Грэцыі пазітыўна пастаўіліся да дыктатуры дзеля выказвання пратэсту супраць цяперашніх палітыкаў. Пра пратэстны характар настрояў сведчыць той факт, што вядучая праварадыкальная палітычная сіла «Залаты ўсход», якая праслаўляе часы Чорных палкоўнікаў, карыстацца падтрымкай толькі 10–11 працэнтаў выбаршчыкаў. Ёсць яшчэ адзін амаль анекдатычны фактар, які стрымлівае грэкаў ад выразных сімпатый да фашыстаў. Гэта маніякальная ідэя выбіць з Германіі рэпарацыі за шкоду, якую зрабілі нямецкія войскі Грэцыі ў часы Другой сусветнай вайны. Некаторыя эканамісты ўжо разлічылі, што Берлін вінны Афінам 162 мільярда еўра. Хаця сам Берлін сцвярджае, што яшчэ ў 1960 годзе пераверў на рахунак ураду Грэцыі 160 мільёнаў нямецкіх марак у якасці кампенсацыі.

**Паводле нямецкай прэсы**

ЦІКАВА

# ЯКУЮ НАЗВУ ПАКІНУЦЬ РАЮ?

**Алег НОВІКАЎ**

**Якія асацыяцыі ў вас выклікае слова «Алма-Ата»? Напэўна, розныя, а вось Сейтказы Матаеў, кіраўнік афіцыйнага Саюза журналістаў Казахстана, пачуўшы слова «Алма-Ата», адразу чуе «журчанне арыкаў, пах сакавітых яблыкаў, горную свежасць». Гэта, на яго думку, важныя аргументы за тое, каб вярнуць гораду Алматы назву Алма-Ата.**



Дадатковы і, напэўна, галоўны аргумент Матаева — няма ніякага нарматыўнага дакументу, паводле якога Алма-Ата павінна называцца Алматы (па-казахску «Яблыневы»). Нагадаем, што Алма-Ата з'явілася на мапе ў 1921 годзе. Аднак Алма-Ата — гэта не руская транслітарацыя Алматы, а абсалютна іншае слова. Нават не слова, а гібрыд двух казахскіх слоў: «Алма» + «Ата» (Яблык + Дзед). Дарэчы, пра яблыкі. Брытанскія навукоўцы ўсталявалі, што практычна ўсе вядомыя ў свеце гатункі яблыкаў маюць карані з раёну Алматы. Так што ёсць нават версіі, што біблейскі рай знаходзіўся менавіта тут.

Праўда, тапонім Алма-Ата прыдумалі не Адам і Ева, а рускамоўныя партработнікі на сходзе Прэзідыума ЦВК Туркестанскай АССР 5 лютага 1921 года. Паводле рэзалюцыі, прынятай на гэтым сходзе, «у адзначэнне гістарычных пачынанняў вызвалення мусульманскай беднаты перайменаваць г. Верны ў г. Алма-Ата па назве мясцовасці, у якой знаходзіцца». За аснову была ўзятая назва горнай рэчкі Алмацінка (менавіта так яна называлася на дарэвалюцыйных мапах).

Так горад і называўся да краху СССР, калі яго на хвалі нацыянальнага адраджэння пачалі называць Алматы. Аднак ніводны ўпаўнаважаны на гэта орган адпаведнае рашэнне не прымаў. Адзінае, што ёсць, — тэкст Канстытуцыі 1993 года, дзе ў рускім варыянце горад называецца на казахскі манер — Алматы. З таго часу афіцыйна горад называюць выключна Алматы. У 2004 годзе са спасылкай на Канстытуцыю адной з мясцовых газет праз суд забаранілі рэкламаваць сябе як газету, што асвятляе падзеі ў горадзе Алма-Ата.

Аднак цяпер высвятляецца, што пры прыняцці Канстытуцыі адбыўся казус. Адзін з аўтараў тэксту асноўнага казахскага закону ўзгадвае: «Прэзідэнт у той час лічыў, што для рускага вуха і гаворкі мілагучней натуральная транскрыпцыя: Алма-Ата, а для казахскага — Алматы. Але ў першую Канстытуцыю незалежнага Казахстана, напісаную на казахскай і рускай мовах, трапіў толькі адзін варыянт — Алматы. Прэзідэнт прызнаўся, што, чытаючы рускі тэкст, скрупулёзна вывяраў важныя палітычныя артыкулы. А вось радок: «Сталіцай Рэспублікі Казахстан з'яўляецца горад Алматы» проста... прапусціў. Калі спахапіўся — усё, Канстытуцыя падпісаная. Назад не вернеш. Цягнік пайшоў. Мне падалося, прэзідэнт вельмі злаваўся на сябе за гэта».

Акрамя спасылкі на гэтую амаль анекдатычную гісторыю, Матаеў кажа, што яго падтрымлівае армія чыноўнікаў і грамадскасці, якія настальгуюць па назве Алма-Ата. Да гэтай грамадскасці ўяна не належаць казахскія нацыяналісты, якія ўспрынялі ініцыятыву катэгарычна адмоўна. Адзін з крытыкаў ідэі вяртання назвы Алма-Ата адзначае: «Назвы населеных пунктаў і іншых геаграфічных аб'ектаў у любой краіне ніхто не падганяе і не павінен падганяць пад вымаўленне іншых народаў ці дубляваць іх на іншай мове, унутры краіны яны даюцца і ўжываюцца толькі на мове яе карэнных жыхароў. Скажам, казахі таксама жывуць у розных краінах свету, аднак яны ж нідзе не патрабуюць, каб там нешта «падганялі» пад казахскую мову. Гэтак жа павінны паводзіць сябе і ўсе дыяспары ў кожнай краіне планеты... Не кажучы пра тое, што вяртанне скажонай назвы — гэта абсурд, які не ўкладваецца ні ў якія рамкі!»

У якасці контратакі казахскія нацыяналісты прапануюць вярнуць старадаўнія цюркскія назвы рускім гарадам: Хажы-Тархан — Астрахань, Арынбор — Арэнбург, Сарысу — Царыцын, Сарытаў — Саратаў, Омбы — Омск, Тумен — Цюмень, Барынаул — Барнаул і г. д.

Такая жорсткая рэакцыя на заяву Матаева тлумачыцца тым, што вяртанне тапоніма Алма-Ата можа стаць прэцэдэнтам. Не выключана, што пасля старту паўзучы перагляд назваў іншых населеных пунктаў, якія ў 1990-я гады пачалі называцца на казахскі лад. Так, Акцюбінск тады стаў Акцюбе, Сяміпалацінск — Семей і г. д. Заклікі вярнуцца да старой (савецкай) тапанімікі — важны складнік праграмы прарасійскага палітычнага руху.

Сапраўды, прамаскоўскія сілы ўжо падхапілі ідэю Сейтказы. Іх выданні крытыкуюць «аматараў нацыяналістычных пантоў»: «У сярэдзіне першага тысячагоддзя да нашай эры на тэрыторыі цяперашняга Казахстану жылі сакі (скіфы). Ім на змену паступова прыходзілі сарматы, гуны (у залежнасці ад часу і геаграфічнага становішча). Потым з'явіліся старажытныя цюркі, і толькі ў сярэднявеччы ўтварыўся этнонім «казах». Дык, можа, дзеля шанавання мінулага нам лепей называцца гунамі? Гэта, магчыма, лагічна, але больш падобна на любоў нашых суайчыннікаў ганарыцца мінулым, чым сучаснасцю».

Што тычыцца палітычнай апазіцыі, то яна пабачыла ў заявах Сейтказы Матаева банальнае жаданне дагадзіць кіраўніцтву. Як вядома, увосень Дарыга Назарбаева, дачка Елбасы, арганізуе ў былой сталіцы грандыёзны фестываль «Алма-Ата — мая першая любоў». І менавіта ў гэты час, на думку Матаева, мэрыя Алматы прыме пастанову пра новую (старую) назву горада. Акрамя таго, уладзе важна адцягнуць увагу грамадства ад сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне, і тапаграфічная вайна гэтага — самы лепшы сродак.

Трэба прызнаць, што большасць жыхароў Алматы дасюль называе горад па-старому. Пра гэты сведчаць у тым ліку назвы розных груп жыхароў гораду ў сацыяльных сетках. Мяркуючы па ўсім, Алма-Ата — частка лакальнай калектыўнай ідэнтыфікацыі, сродак падкрэсліць дыстанцыю ад дыскурсу ўлады. Аднак гэта не значыць, што ініцыятыву Матаева падтрымаюць. Праўда, пытацца ў гараджан таксама ніхто не будзе.

Застаецца дадаць, што вяртанне назвы Алма-Ата абяцае вылікаць цікавыя спрэчкі юрыстаў. Па-сутнасці мы маем юрыдычны нонсенс. Як можна вярнуць Алматы назву Алма-Ата, калі афіцыйна горад не быў перайменаваны? Адсюль яшчэ больш глабальнае пытанне: ці з'яўляюцца законнымі нарматыўныя дакументы, дзе значыцца тапонім Алматы? Па закону, яны таксама нелегітымныя. У тым ліку цяперашняя прэзідэнцкая канстытуцыя, на аснове якой пабудаваная назарбаеўская вертыкаль.

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# БЕРКАРАР — ЗАБОЙЦА ПРЭЗІДЭНТА

Алег НОВІКАЎ

**Падзенне з каня туркменскага прэзідэнта выклікала ў інтэрнэце мноства плётак наконт стану здароўя Заступніка (афіцыйны тытул Гурбангулы Бердымухамедава) і будучыні Туркменістану.**




Штогод у апошнюю нядзелю красавіка ў Туркменіі адзначаецца Дзень ахалтэкінскага скакуна. Статус свята ў грамадстве павышае той факт, што цікавасць да конегадоўлі праяўляе асабіста прэзідэнт і кіраўнік урада, уладальнік амаль афіцыйнага тытула Аркадаг (Заступнік), які абвясціў у краіне эпоху магутнасці і шчасця. Кіраўнік краіны, дарэчы, з'яўляецца аўтарам кнігі «Ахалтэкінец — наш гонар і слава» і кіраўніком міжнароднай асацыяцыі конегадоўлі ахалтэкінцаў.

Абавязковай часткай свята становіцца выступ прэзідэнта, які дэманструе свае навыкі вершніка і заўсёды элегантна перамагае ў фінальным забегу. Зразумела, што нумар праходзіць пад бурныя апладысменты. Аднак на гэты раз адбыўся канфуз.

На відэа, якое размясцілі ў інтэрнэце, падчас забегу ўвесь час лідзіраваў конь Гурбангулы Бердымухамедава, ён апярэджваў бліжэйшага пераследніка на паўтара корпуса. Аднак адразу па завяршэнні кіламетровай дыстанцыі конь спатыкнуўся. Туркменскі кіраўнік пераляцеў праз галаву жарабца, прызямліўся на дарожку тварам уніз і застаўся ляжаць нерухома. Да цела кінуліся некалькі дзясяткаў людзей у чорных гарнітурах. Пад'ехала «хуткая». Пасля, па словах сведкаў, прыкладна гадзіну ніякай інфармацыі не было. Усе трывожна чакалі. Раптам прэзідэнт выйшаў на поле і памахаў усім рукой. Яго віталі апладысментамі.

Самае смешнае, як гэту сцэну апісвала дзяржаўнае агенцтва ў рэпартажы, апублікаваным у той жа дзень. «Набліжаецца запаветны фініш. Асаблівая ўвага гледачоў прыкавана да Беркарара (мянушка каня), якім кіруе лідар нацыі. Побач з ім нясуцца іншыя коні, і конь кіраўніка дзяржавы робіць упэўнены рывок да перамогі... Беркарар першым перасек фінішную рысу! Публіка стоячы, бурнымі, працяглымі авацыямі вітае пераможца... У імкненні нашага нацыянальнага лідара заўсёды і ва ўсім першым дасягаць запаветнай мяжы адбіўся яго мужны характар, стойкасць, здольнасць быць наперадзе, нягледзячы ні на якія цяжкасці. У гэтай рысы характару кіраўніка нашай дзяржавы — аддаваць усе сілы ў імя дасягнення пастаўленай мэты — увасабляецца яго мэтанакіраванасць і ўпартасць, з якой ён вядзе свой родны народ і Айчыну да новых пераможных межаў эпохі магутнасці і шчасця!».

Пакуль чэсныя турменскія журналісты фантазіравалі, мясцовыя сілавікі прыклалі вялікія намаганні для таго, каб пазбегнуць пагалоскі. Гледачоў, якія прысутнічалі на іпадроме, прымушалі выдаляць зробленыя імі фатаздымкі. «EurasiaNet» піша: «Неўзабаве пасля інцыдэнту «супрацоўнікі бяспекі» пачалі прасейваць натоўп, шукаючы гледачоў, якія мелі пры сабе камеры. Іх сабралі, замкнулі ў падтрыбунным памяшканні і прымусілі сцерці фота- і відэазапісы. За тымі, хто сабраўся, назіралі добраахвотнікі студэнцкага ўзросту, каб спыніць спробу схаваць карты памяці фотаапаратаў». А ў ашхабадскім аэрапорце, як паведамляецца на апазіцыйных сайтах, у пасажыраў, якія вылятаюць за мяжу, спешна пачалі адбіраць мабільнікі і іншыя прылады, у якіх маглі захоўвацца «экстрэмісцкія», як бы сказалі ў Беларусі, здымкі. Агучваецца інфармацыя, што ў выніку хапуна злавілі дзесяць «кантрабандыстаў».

Тым не менш, ролік пра падзенне Заступніка трапіў у міравыя СМІ і адразу выклікаў шмат каментараў.

Перш за ўсё, вялікую фракцыю каментатараў складаюць людзі, якія пабачылі ў апісанай падзеі знак: «Адно папярэджанне было дадзена. Мужык не на сваім месцы. Трэба засвоіць урок», — піша блогер Чынгіз на форуме сайта «Аззатык».

Такое ўражанне, што, не будучы ў стане абвергнуць факт здарэння, туркменскія спецслужбы перайшлі да банальнага тролінгу інтэрнэт-форумаў. Да такой думкі падштурхоўвае вялікая колькасць блогераў, якія захапляюцца характарам туркменскага лідара. «Ах, які джыгіт!» «Вось гэта мужык — у 56 гадоў (узрост) сеў на каня. Які ж моцны народ — туркмены!» і г.д.

Праўда, у большасці каментараў сімпатый на адрас Гурбангулы не выказваецца. Наадварот, сустракаецца нават прапанова — перайменаваць Дзень ахалтэкінскага скакуна ў Дзень нечаканага шчасця простага туркмена. Ёсць цікавыя разважанні пра прыроду аўтарытарных рэжымаў. Так, stas-shkel адзначае: «Вось гэта і ёсць «ахілесава пятка» персаналісцкай дыктатуры: адзін неасцярожны рух — і ўся эліта страшэнна ўздрыгвае, нібы пры смерці. А астатнія жыхары, нібы сляпыя, нават і не ведаюць, што адбываецца на самай справе».

Блогер dimka-jd звяртае ўвагу на цікавыя асаблівасці скачак на Дзень ахалтэкінскага скакуна. Справа ў тым, што прызавы фонд фінальнага забегу, на якім проста абавязаны быў перамагчы прэзідэнт, склаў 11 мільёнаў долараў. Усё гэта нагадвае, на думку dimka-jd, элегантную схему дачы хабару. Сапраўды, які дурань будзе рабіць унёсак у такі фонд, ведаючы загадзя вынікі турніру? Адказ відавочны: толькі той, хто хоча падмазаць гаранта.

Па інтэрнэту, між тым, ужо пайшлі гуляць чуткі пра сумны фінал гэтай гісторыі. Прычынай летальнага выніку магла стаць не траўма, а норавы Усходу. «Гіпатэтычна, паўгадзіны беспрытомнасці маглі апынуцца апошнімі для Аркадага. Маглі аказаць яму паслугу хутчэй адправіцца на той свет па тыпу раптоўнай смерці Бацькі ўсіх туркменаў незабыўнага Туркменбашы. Усходнія штучкі з падушкай ніхто не адмяняў», — піша блогер Бауржж. Нехта лічыць, што мужчына, які вітаў публіку пасля здарэння, не Заступнік, а яго дублёр.

Праўда, усе чуткі не маюць ніякая фактычнай базы. Нават апазіцыйныя СМІ схіляюцца да таго, што траўма Бердымухамедава не будзе замінаць яму і далей выконваць функцыі прэзідэнта. Праўда, пакуль сам вялікі знавец ахалтэкінцаў працягвае адсутнічаць на публіцы. Не даюць ніякай інфармацыі наконт стану яго здароўя і афіцыйныя крыніцы.

Не прайшлі міма падзей у Туркменіі і аматары жартаў. Асобнай тэмай стаў лёс каня Беркарара, з якога зваліўся вершнік. Калі верыць гумарыстам, «МНБ (Міністэрства нацыянальнай бяспекі) раскручвае справу пра замах каня на прэзідэнта. Многія коні стайні далі прызнальныя паказанні. Арганізатару пагражае мясакамбінат».

Пры ўсіх відавочных фактах супраць Беркарара, думаецца, што яму ўсё ж нічога не пагражае. А вось у апараце МНБ галовы дакладна паляцяць. Апазіцыйныя сайты сцвярджаюць, што там ужо пачалі шукаць адказных за тое, што крамольныя запісы з падзеннем гаранта трапілі ў інтэрнэт.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ГАРЭГІН II



Вярхоўны патрыярх і Каталікос усіх армян у дзень чарговай гадавіны армянскага генацыду 1915 года падтрымаў ідэю кампенсацыя туркамі матэрыяльнай шкоды армянам — ахвярам пагромаў. «Разам з асабістай маёмасцю ў Заходняй Арменіі і Кілікіі... армяне страцілі таксама царкоўную маёмасць — цэрквы, манастыры, рэлігійныя, адукацыйныя і гуманітарныя цэнтры, прадметы, якія маюць вялікую культурную і рэлігійную каштоўнасць, — хачкары, абразы, рукапісы і г.д. Маёмасць армян турэцкая дзяржава абвясціла сваёй уласнасцю... Мы заклікаем і патрабуем ад Турцыі прызнаць генацыд армян, цалкам кампенсаваць страты армянскага народа», — гаворыцца ў заяве Каталікоса. Пакуль Анкара рашуча адмовілася ад такой пастаноўкі пытання, што і трэба было чакаць. Турэцкая грамадскасць робіць асцярожныя крокі ў накірунку прызнання злачынстваў суайчыннікаў. Толькі нядаўна ў Турцыі 24 красавіка (Дзень генацыду) пачалі праводзіцца афіцыйныя жалобныя мерапрыемствы з удзелам чыноўнікаў. Адбыліся такія акцыі і ў іншых краінах свету. А ў венгерскім горадзе Сегед нават адкрылі мемарыяльную дошку ахвярам генацыду. Шмат хто разглядае гэта як сігнал Будапешта на адрас Ерэвана з просьбай пачаць дыялог. Ерэван прыпыніў дыпламатычныя адносіны з Будапештам у жніўні мінулага года ў знак пратэсту супраць перадачы Азербайджану венгерскім бокам азербайджанскага афіцэра, які адбываў тут пажыццёвае пакаранне за тое, што забіў армянскага калегу.

### ФРАНСУА АЛАНД



Французскі прэзідэнт-сацыяліст абвясціў вайну Ангеле Меркель. Менавіта так пракаментавала прэса фрагменты ўнутранай дакументацыі Сацыялістычнай партыі. У паперах утрымліваецца наступны пасаж: «Грамадскаму еўрапейскаму праекту цяпер пагражае альянс спадчыны брытанскага тэтчэрызму і эгаізм Ангелы Меркель, якая думае толькі пра інтарэсы крэдытораў, гандлёвы баланс і ўласнае пераабранне на наступны тэрмін». Тое, што такую думку падзяляе шмат хто ў французскай эліце, пацвердзіў спікер ніжняй палаты Клод Барталон, які назваў Меркель «канцлерам жорсткай эканоміі». На думку сацыялістаў, выхад з крызісу — не ў тым, каб скарачаць заробкі, а, наадварот, у тым, каб стымуляваць спажыванне, што павінна даць імпульс вытворчасці. Французская правая апазіцыя аператыўна адрэагавала на дэмаршы ўраду і заявіла, што падобны тон можа падарваць вось французска-нямецкай кааперацыі, вакол якой будуецца ўвесь праект Еўрасаюза. Між тым, у Берліне дастаткова спакойна паставіліся да крытыкі з Парыжу. Адзін з лідараў фракцыі хрысціянскіх дэмакратаў у Бундэстагу лічыць, што «Берлін не нясе адказнасці за эканамічныя праблемы Францыі», і не трэба ўсё валіць на Меркель.

### СЭМІ ВІЛЬСАН

Міністр фінансаў Паўночнай Ірландыі, сябра Уніянісцкай дэмакратычнай партыі (DUP), якая выступае супраць далучэння Ольстэра да Ірландыі, узначаліў лакальных праціўнікаў аднаполых шлюбаў і дабіўся перамогі. 29 красавіка парламент Паўночнай Ірландыі 52 галасамі супраць 42 забараніў рэгістрацыю аднаполых шлюбаў. Сітуацыя забаўная, паколькі лабістамі правоў прадстаўнікоў сэксуальнай меншасці былі ірландцы-каталікі з партыі «Шын Фейн». Свае патрабаванні яны аргументавалі тым, што аднаполыя шлюбы дазволеныя ў Ірландыі, часткай якой у будучыні павінна стаць Поўнач, якую брытанскія каланізатары адарвалі ад Ірландыі ў 1914 годзе. Але самае цікавае — два месяцы таму, 13 лютага, Палата абшчынаў Вялікабрытаніі дала зялёнае святло аднаполым шлюбам. Іншымі словамі, атрымліваецца, што рэгіянальны парламент Паўночнай Ірландыі ігнаруе больш высокія інстанцыі. Менавіта таму шматлікія праваабарончыя арганізацыі лічаць, што Вільсан парушыў закон, і збіраюцца аспрэчыць рэзалюцыю ў судзе. Праўда, у Вільсана і яго гамафобаў ёсць свой аргумент для Феміды. Па пытанню аднаполых шлюбаў яшчэ не выказалася Шатландыя, парламент якой таксама хутка павінен прыняць рашэнне. Між тым, тыя ж праваабаронцы не крытыкуюць Эдынбург за тое, што той будзе таксама разгледжваць пытанне, якое ўжо вырашана ў Лондане. Гэта, на думку Вільсана, сведчыць пра крывадушнасць абаронцаў аднаполых шлюбаў.



СПАДЧЫНА

# ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ У ПРАДЧУВАННІ ВАЙНЫ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Увесну 1939 года насельніцтва Польшчы жыло ў прадчуванні хуткай вайны. Усе — ад прэзідэнта да апошняга селяніна — разумелі, што хутка нацысцкая Германія нападзе на іх краіну. Матэрыялы тагачаснага перыядычнага друку, лісты і дзённікавыя ўспаміны лепш за ўсё перадаюць атмасферу, якая панавала тады ў II Рэчы Паспалітай.**



Маршал Рыдз-Сміглы ў Цешыне

## Махавік падрыхтоўкі да вайны

24 кастрычніка 1938 года міністр замежных спраў Трэцяга Рэйху Іаахім фон Рыбентроп прадставіў польскаму амбасадару ў Берліне Юзафу Ліпскаму «патрабаванне» нямецкага ўраду аб перадачы Германіі ўсіх правоў на Гданьск і дазвол на пабудову экстэрытарыяльнай аўтастрады ў польскім «калідоры».

Варшава праз свайго амбасадара адказала, што любая спроба ўключэння Гданьска ў склад Рэйху прывядзе да канфлікту. 15 снежня Рыбентроп зноў агучыў нямецкія патрабаванні.

У адказ прэм'ер Англіі Нэвіл Чэмберлен у сакавіку 1939 года абвясціў брытанскія гарантыі Польшчы. 28 красавіка 1939 года Гітлер на ўвесь свет запатрабаваў ад Польшчы пагадзіцца на будаўніцтва экстэрытарыяльнай аўтастрады да Гданьска і перадачы ўсіх правоў на гэты горад Рэйху. 5 мая падчас выступлення ў Сейме Юзаф Бек адхіліў патрабаванні Трэцяга Рэйха. З гэтага моманту пайшоў зваротны адлік да пачатку Другой сусветнай вайны.

## Беларусы: расколаты патрыятызм

Грамадзяне Польшчы, і ў тым ліку шматлікія беларусы, пазітыўна сустрэлі «адказ Бека» на ўльтыматум Гітлера. У адной з тайных справаздач Другога аддзела Генштаба польскай арміі адзначалася, што 6 мая 1939 года ў Варшаве на вуліцы Свентакшыскай адбыўся сход прадстаўнікоў беларускіх арганізацый, які падтрымаў міністра Юзафа Бека за яго цвёрдую адмову нямецкім патрабаванням. Па інфармацыі польскіх спецыяльных службаў, беларусы лічылі, што вайна з Германіяй — гэта вырашаная справа. І ў гэтай сітуацыі яны, як лаяльныя грамадзяне і патрыёты свабй дзяржавы, былі гатовы аддаць сваё жыццё за незалежнасць краіны.

Варта падкрэсліць, што патрыятычны ўздым у польскім грамадстве панаваў з кастрычніка 1938 года, калі адбылося далучэнне Цешынскай Сілезіі да II Рэчы Паспалітай. Часопіс «Малады грамадзянін» з гэтай нагоды пісаў: «Польскі народ перажывае вялікія гістарычныя падзеі, якія выпалі якраз на дваццацігоддзе незалежнасці нашай дзяржавы. Змяняюцца навязаныя Польшчы сілай межы, вяртаюцца раней забраныя ў нас землі. Ці гэта толькі выпадак? Шчаслівы збег абставінаў? Не. Тое, што робіцца сёння ў Польшчы, не з'яўляецца выпадкам. Каб перамагчы несправядлівасць, трэба быць моцным. Польшча сёння — моцная краіна, і моц гэтая паўстала дзякуючы дваццаці гадам працы ўсяго народа».

«Тыгоднік ілюстраваны» адзначаў: «На нашых вачах руйнуецца былы светапарадак. Сёння мы можам казаць пра «верыфікацыю» дзяржаў, якія па-новаму акрэсліваюць свае правы голасу на міжнароднай арэне. [...] Чэхі палічылі, што ў процістаянні з Трэцім Рэйхам прайграюць. Яны аддалі Судэты з іх фартыфікацыйнымі ўмацаваннямі без адзінага стрэлу. І нават пасля гэтага яны маглі выступіць супраць агрэсара са зброяй у руках. Аднак чэхі выбіраюць капітуляцыю і аддаюць сваё ўзбраенне ў рукі немцаў. У такіх умовах цяжка думаць пра незалежнасць».

Тон гэтых вытрымак з тагачасных польскіх перыядычных выданняў чымсьці нагадвае такія ж матэрыялы ў савецкай прэсе з нагоды пачатку «вызваленчага паходу ў Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь 17 верасня 1939 года».

Такія былі часы. І такой была Польшча, у якой адны беларусы былі схільныя да польскага дзяржаўнага патрыятызму, другія — паверылі ў казку аб савецкім раі. Яны будуць разам супрацьстаяць гітлераўскай навалачы.

## Ілюзіі пра «чырвоны рай»

Падзеі на польска-чэхаславацкай мяжы моцна турбавалі Савецкі Саюз, і гэта адчулі жыхары ўсходніх ускраін II Рэчы Паспалітай. Камандзір аднаго з батальёнаў 84-га пяхотнага палка Войска Польскага, расквартараванага ў Лунінцы, паручнік Караль Красонь у дзённіку пісаў: «Мюнхен прымусіў варушыцца нашага таямнічага суседа на ўсходзе, а таксама яго скрытых прыхільнікаў на нашай тэрыторыі. Зараз гэты сусед галосіць пра тое, што павінен прыйсці на дапамогу чэхам, якія чакаюць «чырвоную армаду». Аднак усё скончылася толькі парушэннем польскай мяжы самалётамі з чырвонымі зоркамі на крылах.

Магчымасць канфлікту з савецкай Расіяй надала смеласці прыхільнікам «чырвонага раю» на нашай тэрыторыі. У кастрычніку 1938 года дзяржаўная паліцыя лунінецкага староства праінфармавала камендатуру гарнізона Войска Польскага аб тым, што ў раёне Лунінца на тэрыторыю Польшчы пракраўся буйны і добра ўзброены савецкі дыверсійны атрад. Гэту навіну мясцовае беларускае насельніцтва сустрэла па-рознаму. Адны спужаліся і чакалі нападаў. Другія, наадварот, радаваліся. Адна сялянка казала жонцы супрацоўніка Давідгарадзенскай ардынацыі Радзівілаў: «Няхай пані не пужаецца. Калі «нашы» прыйдуць, мы не дадзім пані ў крыўду, бо пані для нас шмат дабра зрабіла».

А вось як апісваецца змена настрояў насельніцтва на «крэсах» тым жа Красонем: «Зімой 1939 года да нас даходзіла інфармацыя пра партызанскую вайну на тэрыторыі Закарпацкай Русі. У сакавіку як гром надыходзіць навіна пра капітуляцыю чэхаў. Гэтага ніхто не чакаў. Як гэта, нацыянальнае войска, без пратэсту, без бою, вось так спакойна прыняло рашэнне «трухлявага» ўрада? Ні адзін з вайсковых аддзелаў не паспрабаваў выступіць супраць капітуляцыі. Што, чэшскае рыцарства сапраўды загінула ў бітве пад Белай Гурай і больш не адрадзілася? Народ спужаўся вайны, да якой краіна рыхтавалася 20 гадоў. Так лёгка аддаць незалежнасць можа толькі народ, які не змагаўся за сваю краіну ў войнах і паўстаннях. Тут варта прыгадаць словы пехацінца, беларуса па прозвішчы Бацян, які на ўсё гэта сказаў: «Мы б так проста краіну не здалі».

Але варта разумець, што зараз перад намі пагроза вайны. Думка пра надыходзячыя выпрабаванні ўзбуджае ў кожнага з афіцэраў пытанне: «У якім стане мы падыдзем да будучага канфлікту? Ці выканае абяцанні Францыя? Як у выпадку вайны з Германіяй будзе сябе паводзіць наш усходні сусед?»

Безумоўна, польскі вайсковец разумеў, што вайна з Германіяй не будзе лёгкім шпацырам: тэхнічна Войска Польскае не дацягвала да матарызаванага вермахта. Да таго ж паручнік Красонь вельмі слушна браў пад увагу ролю Савецкага Саюза ў будучай польска-нямецкай вайне. Гэты чалавек жыў досыць блізка ад мяжы з БССР, і яго дзённікавыя запісы сведчаць пра тое, што бальшавікі рыхтаваліся да наступу на Захад.

## Беларускія рэзервісты

Нягледзячы на прапаганду бальшавіцкіх дыверсантаў, што дзейнічалі на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў Польшчы, значная колькасць насельніцтва гэтых тэрыторый, і ў тым ліку беларусы, рыхтаваліся ў выпадку вайны абараняць сваю тагачасную радзіму. Напрыклад, пра сваё жаданне ваяваць з нацыстамі ў лісце да знаёмай пісаў страхавы агент з Кобрына, паручнік рэзерву, беларус Віктар Амельянюк.

У канцы сакавіка 1939 года ў Польшчы пачалася прыхаваная мабілізацыя. Большасць падраздзяленняў, якія знаходзіліся на Усходзе Польшчы, былі адмабілізаваныя і перакінутыя на Захад. Пры гэтым склад частак папаўняўся ў асноўным рэзервістамі з «крэсаў».

Аднак добрага спецыяліста Амельянюка ў сакавіку ў войска не паклікалі, пра што ён і паскардзіўся ў лісце знаёмай. У адказе, датаваным, дарэчы, 1 мая 1939 года, за чатыры месяцы да пачатку Другой сусветнай вайны, тая напіша: «Кажаш, што цябе не мабілізавалі ў войска? Але ў войску не будзе стольскі свабоды, як зараз на працы. Спадзяюся, што Бог уратуе нас ад вайны. Бо калі будзе вайна, усе пойдзеце ў войска. Можа, гэты Гітлер шыю сабе зломіць, і ўсё супакоіцца!»

Працэс мабілізацыі праходзіў досыць спакойна і арганізавана. Напрыклад, у справаздачы з Пінску было, у прыватнасці, запісана: «Настрой рэзервістаў вельмі добры. Усе імкнуцца даць годны адказ нямецкім агрэсарам. Разам з тым, некаторыя з іх, асабліва мясцовыя (беларусы — аўт.), смуткуюць па сем'ях, якія пакідаюць на крэсах».

## Памылкі палітыкаў выпраўляць салдатам

Польскія перыядычныя выданні ўвесну 1939 года спрабавалі падняць патрыятычны настрой грамадства. Усё той жа часопіс «Малады грамадзянін» пазначаў: «А калі вораг пажадае атакаваць тваю краіну, а нехта каля цябе закрычыць, што ўсё прапала, не вер яму. Ужо сёння выхоўвай у сабе салдата, гатовага абараніць Айчыну. Ганарыся польскім жаўнерам, бо за мінулыя вякі менавіта тыя суседзі, ад якіх мы зараз чакаем найбольшай небяспекі, пазналі моц нашага жаўнера».

У чэрвені 1939 года «Тыгоднік ілюстраваны» пісаў: «Карыстаючыся нацыянальнымі матывамі, Германія захапіла Аўстрыю і анексавала Судэты. Аднак акупацыю Багеміі і Маравіі нацыянальным фактарам ужо не абгрунтуеш, таму зараз з'явілася ідэя пашырэння «жыццёвай прасторы» для германскай нацыі. Гэта з'яўляецца праяўленнем старога пруска-нямецкага імперыялізму. Да таго ж у гэтай сітуацыі не акрэсленай застаецца пазіцыя Саветаў. Перамовы з Англіяй ідуць вельмі цяжка. «Прароцтва» пра тое, што Саветы пойдуць на пагадненне з Германіяй, выглядаюць малаверагоднымі. Хутчэй за ўсё, маскоўская вярхушка не жадае падтрымліваць ні адзін з бакоў. Як бы тое не было, у Саветаў няма сумеснай мяжы з Германіяй, а гарантам міру ва Усходняй Еўропе з'яўляецца Польшча»...

Наіўнасць гэтых разважанняў грамадзяне II Рэчы Паспалітай зразумеюць ужо праз некалькі месяцаў, калі Гітлер і Сталін падзеляць паміж сабой «гаранта міру». Мяркуючы па лістах і дзённікавых запісах жыхароў заходнебеларускіх ваяводстваў міжваеннай Польшчы, у 1938–1939 гадах гэтыя людзі дакладна разумелі, што іх чакаюць вялікія выпрабаванні і што дзяржаву давядзецца бараніць не палітыкам, а звычайным салдатам. (S)



Польскі парад у Цешыне, 1938 год



Літоўскі генерал аглядае рыштунак польскага пехацінца, 1938 год

ВІЛЕНСКАЯ ШКОЛА

# ЛЮДАМІР СЛЯНДЗІНСКІ. ТРАЙНЫ ПАРТРЭТ

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**Свой трайны аўтапартрэт — мастака ў трэцім пакаленні, тэарэтыка мастацтва і грамадскага дзеяча — Людамір Сляндзінскі не напісаў на палатне. Але ўвасобіў у жыцці. У гэтым партрэце ёсць яркія беларускія колеры.**



Людамір Сляндзінскі



Вінцэнт Сляндзінскі (бацька Людаміра). Аўтапартрэт



Аляксандр Сляндзінскі (дзед Людаміра). Аўтапартрэт

Трайны партрэт адной асобы ў трох іпастасях — рэч надзвычайная, калі не сказаць адзінкавая. Прыклады таму ёсць. Гэта, перадусім, «Трайны партрэт кардынала Рышэльё» — палатно, што належыць пэндзлю французскага мастака Філіпа дэ Шампенэ (1642). Гэта шэдэўр Ван Дэйка — «Трайны партрэт караля» (1635, Віндзарскі палац — Каралеўскі збор), на якім манаршая асоба паказана ў трох ракурсах.

У беларускім мастацтве маем «Аўтапартрэт» Язэпа Драздовіча (1943), у якім творца паказаў сябе ў трох іпастасях: мысляра-даследчыка нябесных бегаў, мастака-жывапісца і літаратара адначасова.

## Ад прадзедаў-дзядоў…

Дакументальных звестак пра пачынальніка мастацкага роду Сляндзінскіх вобмаль. Вядома хіба, што дзед — Аляксандр Сляндзінскі — ад 1819 па 1831 год вучыўся ў Віленскім універсітэце ў аднаго з заснавальнікаў прафесійнага выяўленчага мастацтва Яна Рустэма (1762–1835) і скульптара Казіміра Ельскага (1823–1825), які атрымаў адукацыю ў Парыжы (1821–1822) і Рыме (Акадэміі Св. Лукі, 1823). Пазней жыў у розных мясцінах правінцыі.

Паводле даследчыцы Рыты Янонене, Аляксандр Сляндзінскі, якім апекаваўся галоўны кіраўнік інсургенцыі 1831 года князь Адам Чартарыйскі, доўга «жыў у розных мясцінах правінцыі» пасля здушэння паўстання. Так доўга, што ў яго ў 1837 годзе ў мястэчку Скрэбні, каля Янава, што на Піншчыне, нарадзіўся сын Вінцэнт.

На карысць версіі ўдзелу Аляксандра Сляндзінскага ў паўстанні гавораць і яго шчыльная сувязь з родам чынных удзельнікаў паўстання — Бенедыкта Тышкевіча (з галіны Лагойскіх). Працуючы ў Чырвоным Двары (зараз Раўдондварыс) каля Коўна, з 1842 года Аляксандр быў іх мастаком, а з 1848-га — выконваў абавязкі хатняга настаўніка малявання ў маёнтку.

У 1852–1856 гадах намаляваў алтарную карціну «Крыжовы Шлях» і некалькі абразоў для касцёла Св. Тэрэзы (Вільня), пісаў свецкія партрэты, як адзначаюць польскія даследчыкі, у «стылі, блізкім да твораў Рустэма». У 1870-х гадах маляваў алегарычныя і побытавыя сюжэты з філасафічным падтэкстам, а таксама сцэны жыцця простага люду.

Сын Аляксандра Вінцэнт пайшоў па слядах свайго бацькі. Ад яго ж атрымаў свае першыя ўрокі малявання, а яшчэ ад Канута Русецкага (1801–1860), таксама вучня Рустэма, сябра Таварыства філаматаў.

## Яблык ад яблынькі…

Людамір Сляндзінскі, прадстаўнік трэцяга пакалення віленскіх мастакоў, нарадзіўся пахмурным днём 1889 года ў Вільні на Сніпішках, у Зареччы — раёне віленскай рамесніцкай галечы, які цяпер з'яўляецца своеасаблівай незалежнай культурніцкай рэспублікай з уласнай канстытуцыяй — Ужупіс.

Дзяцінства сваё Людамір правёў у цётак — Канстанцыі Прозаравай і Ізабелы Францкевіч у мястэчку Качаны (Віленскай, а з 1842 года — Ковенськай губерні). Мяркуем, маёнтак знаходзіўся дзесьці ў наваколлі Мядзела. Вучыўся ў Першай віленскай гімназіі і школе І. Трутнева, па заканчэнні якой у 1909 годзе юнак паехаў у Пецярбург, дзе на пачатку вучыўся ва ўніверсітэце па спецыяльнасці «юрыспрудэнцыя».

Але хутка перайшоў у Мастацкую акадэмію, у майстэрню Зміцера Кардоўскага (1866–1943) — выдатнага малявальшчыка, узгадаванага на ўзорах класічнага мастацтва, які заўжды за прыклад браў малюнак Гальбейна, стрыманы каларыт Веласкеса і бенедзікцінскія адносіны да працы.

Гладкі і, здавалася б, сухаваты жывапіс, дакладна выверany малюнак Кардоўскага прываблівалі нямногіх. Але Людамір ні абвяргаць, ні ўпарціцца гэтаму не стаў. Закончыўшы акадэмію ў 1916 годзе і перажыўшы ваенна-рэвалюцыйныя нягоды ў працэсе падпрацовак і вандраваннях па парэштках неабсяжнай імперыі, толькі ў 1920-я гады Людамір вярнуўся на родную Віленшчыну. Ён уладкаваўся выкладчыкам малявання ў гімназію Жыгімонта Аўгуста і з галавой акунуўся ў вір прафесійнага і грамадскага жыцця.

## Вільня

Стварыць арганізацыю, якая б дапамагала мастакам, па большасці сярэдняга пакалення, узнікла ў Фердынанда Рушчыца. Увасобіць жа гэтую ідэю ў жыццё выпала Людаміру Сляндзінскаму. У траўні 1920 года ён спрычыніўся да заснавання віленскага Таварыства артыстаў-пластыкаў (WTAP) і быў абраны яго прэзідэнтам (пераабіраўся аж да 1939 года).

Бадай, першай публічна-адукацыйнай справай маладой арганізацыі сталася стварэнне школы малюнка пры WTAP (27 лютага 1921 года), якую таксама ачоліў Людамір Сляндзінскі. Увасобіўшы гэту ідэю, ён прыхоўваў да часу ад знешняга вока далёка ідучыя стратэгічныя планы літвіна.

Справа ў тым, што ў 1920-я гады мастакі розных краін былі апантаныя пошукам агульнанацыянальнага стылю. Пошукам былі занятыя і сябры нефармальнага варшаўскага аб'яднання «RYTM» і «сацыяльна блізкія» ўрадава-дзяржаўнай Польшчы сябры «Брацтва Св. Лукаша», закладзенага Тадэвушам Прушкоўскім ды іншымі. Тэарэтычныя праграмныя ўстаноўкі WTAP падштурхоўвалі яго сяброў да класіцызму, які падкрэсліваў лінію і змест, абапіраўся на італійскую школу ранняга рэнесансу, багаявіў італьянскае квадрачэнта — ідэал віленскай школы пачатку XIX стагоддзя. Наступным тактычным крокам было запачаткаванне часопіса «Poiudnie» (рэдактар Ст. Вазніцкі).

## Варшава… і зноў Вільня

Уласная мастацкая кар'ера Сляндзінскага крута забірае ўгару ад выставы 1922 года, пасля якой ён атрымаў замову на роспіс плафона ў палацы Рады Міністраў, а пазней на выкананне эскізаў і роспісу залы пасяджэнняў Сейму Рэчы Паспалітай, мастацкае аздабленне рэзідэнцыі міністра замежных спраў. Уплыў ягоны быў настолькі моцны, што мастацкую супольнасць ахапіла хвароба «а ля Сляндзінскі».

У 1923 годзе Сляндзінскі выканаў манументальную працу «Алегорыя Палоніі». Наступная праца — плафон у прэзідэнцкай бібліятэцы. Пазней ён робіць фрэскі ў сядзібах віленскага ашчаднага банка і толькі што пабудаванага гаспадарчага Банка краёвага.

Развіваючы спрадвечныя тэмы — «Праца», «Удача», «Ашчаднасць», — ён звяртаецца да сімволіка-алегарычных вобразаў і прыкладае намаганні сцвердзіць новую міфалогію, якая ў нечым перагукваецца з эстэтычнымі ідэаламі тагачаснай Нямеччыны. Рух у гэтым накірунку заўважны з сярэдзіны 1920-х гадоў, знакавай з'явай якога сталася станковая алейная карціна «Дафніс і Хлоя» (1926).

Замовы падтрымлівалі не толькі маральна. Фінансавая незалежнасць дала Сляндзінскаму магчымасць наведаць Парыж, Рым, Фларэнцыю, Венецыю і пашырыць уласны кругагляд. Падарожжы спалучаліся з выкананнем манументальных замоваў, бліжэйшым знаёмствам з новымі мастацкімі павевамі, у тым ліку і мастацтвам новай рэчаіснасці, што набірала моц у Германіі.

Апрача ўсяго іншага, Сляндзінскі напрыканцы 1920-х — у першай палове 1930-х гадоў быў асобай аўтарытэтнай. Гарадскія ўлады абавязкова звярталіся да яго па пытаннях арганізацыі музея сучаснага мастацтва, стварэння камісіі па манументальнай прапагандзе (усталяванне помнікаў Сыракомлю, Міцкевічу, Вітаўту Вялікаму), экспертызе архітэктуры і горадабудаўніцтва.

## Гульня ў перацягванне каната

Летам 1925 года, вярнуўшыся на сталае жыццё ў Вільню, Людамір Сляндзінскі быў запрошаны Рушчыцам на пасаду загадчыка кафедры манументальнага жывапісу Віленскага ўніверсітэта Стэфана Баторыя, дзе працаваў да пачатку Другой сусветнай вайны — выкладаў, выконваў абавязкі намесніка дэкана і дэкана.

Галоўны ідэолаг WTAP любіў прыгаворваць: «Каб быць добрым паэтам, трэба грунтоўна спазнаць літаратуру класічную». У ягонай майстэрні, хоць і эксперыментавалі, але да асобы майстра ставіліся з пашанай. Узорамі творчасці для яго былі Фрацішак Смуглевіч і Ян Рустэм.

З лёгкай рукі Т. Дабравольскага ў грамадска-мастацкім ужытку ўкараніўся тэрмін «Віленская школа». Здабыты аўтарытэт і пазнаванне яго праз WTAP адгукаліся не заўжды добразычлівай сталічнай крытыкай. Яго папікалі за тое, што ён закрэслівае вялікі атрад варшаўскіх мастакоў, маўляў, погляды ягоныя традыцыйныя. Што прысабечвае іх для патрэбаў уласнай творчасці. Што шчыльна кантактуе з афіцыйнымі ўладамі, каб мець ад іх гарантаваныя замовы і іншыя выгоды…

Дзейнасць WTAP на правінцыі, а галоўнае, вектар яе скіраванасці, не на жарт усхвалявала ідэолагаў і сталічнае чыноўніцтва ад мастацтва і падштурхнулі (калі не справакавалі) стварэнне ў Варшаве Інстытута прапаганды мастацтва (IPS). У красавіку 1933 года IPS адначасова адчыніў дзве супольныя выставы, на якіх было паказана 96 твораў 17 мастакоў і персанальную — Людаміра Сляндзінскага. Экспазіцыя з 80 прац знаёміла варшаўскага гледача з творчым дарobkам майстра за апошнія 8 гадоў.

Па выніках выставы мэтр атрымаў і ўхвалы, і крытыку. Дасталася і іншым удзельнікам супольнай выставы. Але гэта не перашкодзіла ім атрымаць запрашэнне на вясновую выставу 1934 года ў Сан-Фрацыска.

Пазней, у 1937 годзе, ідэолаг IPS Конрад Вінклер абрынуў на творцу вадаспад знішчальнай крытыкі. «Мастацтва прафесара Сляндзінскага і яго школа — гэта анахранізм, непаразуменне, якое вырасла на тле дробных амбіцый прафесара… яно несувымернае з творчымі ідэямі Захаду», — пісаў ён.

Больш цёплым прыём быў у восеньскай Варшаве ў 1937 годзе, калі IPS выставіў віленскіх мастакоў у больш шырокім складзе — далучыліся Сеўрук, Чурыла, Дабржанскі і іншыя.

Далейшы крывавы кругабег грамадска-палітычных падзей, якія неўзабаве абрынуліся на Еўропу, Сляндзінскі трываў у Вільні. Жывучы ад 1941 года ў своеасаблівым Доме-камуне мастакоў на Пагулянцы, як і большасць выкладчыкаў універсітэта Стэфана Баторыя, падтрымліваў сувязь з яго падпольнымі структурамі супрацыву. Зазнаў нястачу, перaслед гестапа. Як і ўсе, перажываў і іншыя нягоды.

Пасля вайны Сляндзінскі з'ехаў у Кракаў, дзе жылі сваякі па бацькоўскай лініі. Выкладаў малюнак і скульптуру на архітэктурным факультэце Політэхнічнай акадэміі. «То былі часы не надта спрыяльныя для мастацтва ў кірунку сапраўднага рэнесансу», — заўважаў А. Блажэвіч. У 1948–1952 гадах мастак зазнаў уплыў сацрэалізму.

Людамір Сляндзінскі ўдзельнічаў у шматлікіх супольных выставах, меў і персанальныя: у 1950-м, 1957-м, 1962 гадах у Кракаве, у 1972-м — у Беластоку, у 1973-м — у Варшаве і нават у музеі Акадэміі мастацтва ў Ленінградзе (1975).

Памёр мастак 26 лістапада 1980 года ў Кракаве. На сотыя ўгодкі яго нараджэння была арганізавана выстава ў галерэі «Арсенал Беластока». (S)

ЦІКАВА

# ПАЛІТЫЧНЫЯ МАЛЮНКІ ЗАБЫТАГА МАСТАКА

Сяргей ЧЫГРЫН

**Здымкаў беларускага мастака Аляксандра Раманоўскага мне знайсці не ўдалося. Але адшукаў шмат яго малюнкаў на палітычныя тэмы. На іх адлюстравана трагічная і праўдзівая гісторыя нашага народа.**



На допыт



Масавыя арышты



Партрэт студэнта Віцебскай мастацкай школы Сямёнава, які загінуў у падвалах НКУС у 1938 годзе

Аляксандр Раманоўскі пражыў усяго 40 гадоў. Ён нарадзіўся ў Віцебску ў 1915 годзе. Пасля школы паступіў у мясцовы мастацкі тэхнікум. А калі закончыў тэхнікум, уладкаваўся на працу настаўнікам малявання. Потым пэўны час працаваў мастакомдэкаратарам у Другім Беларускім дзяржаўным тэатры (II БДТ).

У 1940 годзе Аляксандра Раманоўскага мабілізавалі ў армію і накіравалі на фінскі фронт. Але там праз год ён трапіў у нямецкі палон. Яго, як палоннага, прывезлі ў Германію, дзе ён і знаходзіўся да канца вайны. Праўда, вяртацца на Бацькаўшчыну Раманоўскі не спяшаўся, бо ведаў, што адразу будзе сасланы ў Сібір. Ён застаўся ў Германіі. Там беларускі мастак працягваў сваю творчую дзейнасць і жыў да 1949 года.

З Германіі шлях беларускага мастака ляжаў у Аўстралію. Спачатку ён далучыўся да беларусаў Сіднея, а потым неяк адышоў ад іх, хаця з многімі землякамі сябраваў. У Аўстраліі Аляксандр Раманоўскі шмат працаваў. У памятным альбоме «Беларускія мастакі замежжа» (ЗША, 2001) пра яго згадваецца так: «Найбольш творчую ўвагу мастака прыцягвалі палітычныя карыкатуры, плакат, скетч. Ягоныя творы адзначаюцца поўным апанаваннем тэхнікі малюнку ды імкненнем выказаць задуманую ідэю найбольш ашчаднымі мастацкімі сродкамі».

Карыкатуры-скетчы Аляксандра Раманоўскага друкаваліся на старонках беларускай газеты «Бацькаўшчына», у часопісе «Конадні», у расійскіх эміграцыйных выданнях. А ў 1955 годзе ў Сіднеі асобным выданнем свет пабачыў сшытак з 14 скетчамі мастака пад назвай «За жалезнай заслонай».

Беларускі мастак у далёкім замежжы вельмі часта звяртаўся да тэматыкі савецкай Беларусі, паказваў цяжкае жыццё беларусаў, жахі рэпрэсій. Ён наладжваў шматлікія кантакты з аўстралійскімі мастакамі, удзельнічаў у разнастайных мастацкіх выставах. А апошняя з іх, як згадвае Наталля Гардзіенка ў сваёй кнізе «Беларусы ў Аўстраліі» (Мн., 2004), якая аб'яднoўвала творы 30 найвыдатнейшых аўстралійскіх мастакоў, адбылася з Сіднеі ў верасні 1955 года, за месяц да трагічнай смерці мастака.

З некаторымі творамі Аляксандра Раманоўскага хочацца пазнаёміць чытачоў "Новага часу". Яны сваю актуальнасць не страцілі.



Зачыняюць царкву



Святары ў лагеры прымусовай працы



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 510

Падпісана да друку 03.05.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(**S**) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча